PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 23 (2195) Год XLIII Беласток 7 чэрвеня 1998 г. Цана 1 зл.

## Набліжаюцца выбары

**19 мая 1998 года ў Гайнаўцы створаны быў Беларускі выбарчы камітэт з мэтай падрыхтоўкі да восеньскіх самаўрадавых выбараў.**

Ужо ў лютым паўстала ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі прадстаўнікі Гайнаўскага аддзела БГКТ, Беларускага саюза ў РП, што з Гайнаўкі і людзі звязаныя з Брацтвам праваслаўнай моладзі (выбары ў гмінныя рады мелі адбыцца ў чэрвені). Пачала яна дыскусію наконт стварэння выбарчага камітэта, у які ўвайшлі б прадстаўнікі беларускага асяроддзя Гайнаўкі.

На сустрэчу ў Беларускі музей прыйшлі некаторыя радныя горада Гайнаўкі, члены арганізацый, якія стварылі ініцыятыўную групу і людзі ахвотныя дапамагчы ў працы перад восеньскімі выбарамі. Прысутных прывітаў старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ Міхал Голуб, які і вёў спатканне. Спачатку пазнаёміў ён прысутных з працай ініцыятыўнай групы і размовамі, якія адбываліся ў будынку Музея. Пасля ішла дыскусія наконт стварэння выбарчага камітэта і яго ўправы. Прынята была прапанова аднаго з удзельнікаў, каб усе прысутныя, калі будуць згодны, сталі членамі Беларускага выбарчага камітэта. Ва ўправу Камітэта ўвайшло 15 асоб, сярод якіх былі члены БГКТ, Беларускага саюза ў РП і Брацтва праваслаўнай моладзі. Старшынёй стаў Яўген Сачко, дырэктар II Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы, а яго намеснікамі Міхал Андрасюк, які ўвайшоў ад імя Беларускага саюза ў РП і Міхал Голуб, старшыня Гайнаўскага аддзела БГКТ. Ніна Гарустовіч, былы працаўнік гайнаўскага магістрата, стала сакратаром.

— Прымем кожнага, хто схоча працаваць на карысць Беларускага выбарчага камітэта ў Гайнаўцы, — сказаў старшыня Яўген Сачко. — Самая важная справа, каб як найбольш нашых людзей пайшло на выбары і ў гэтым напрамку трэба будзе пачынаць працу.

Управа БВК прадбачыла стварэнне некалькіх груп, па праблемах, якія трэба вырашыць у горадзе, з мэтай пачаць працу над стварэннем выбарчай праграмы БВК. Зараз не вырашаны яшчэ спосаб выбару радных у такіх гарадах, як Гайнаўка (25 тыс. жыхароў). Дагэтуль выбары адбываліся ў паасобных акругах, але гэта можа памяняцца, звярталі ўвагу прысутныя.

**(ам-з)**



*Малітва — гэта тое, што яднае маладых і пажылых. Парафіяльны хор з Калантаяў (Рэспубліка Беларусь).*

XVII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі

## Заўсёды Сабор быў поўны

Аляксей Мароз

**24 мая канцэртам мінулагодняга лаўрэата, Хору студэнтаў Аддзела дырыжорства Беларускай музычнай акадэміі пачаўся XVII Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.**

Адкрыццё Фестывалю, што адбываецца ў Саборы Святой Тройцы, пачалося з малебна і слоў Гайнаўскага епіскапа Мірана, які зачытаў пасланне ад мітрапаліта Варшаўскага і ўсяе Польшчы Савы, прывітаў прысутных і пажадаў поспехаў удзельнікам. Дырэктар Фестывалю Мікола Бушко, бурмістр Гайнаўкі Ядвіга Рудзінская-Патэюк і ваявода беластоцкі Крыстына Лукашук далучыліся таксама да слоў Яго Блажэнства, жадаючы гледачам незабыўных духоўных уражанняў.

### Які быў пачатак

— Першыя сустрэчы называліся „Днямі царкоўнай музыкі”, — успамінае Мікола Еўдасюк, які зараз дапамагае арганізавацт Фестываль. — Усё пачалося ў 1982 годзе яшчэ ў драўлянай царкве, бо пабудова Сабора не была закончана. Спачатку прыязджала па 5-10 хораў з навакольных мясцовасцей, каб сустрэцца і супольна паспяваць. Успамінаючы пачатак, заўсёды перад вачыма паяўляецца постаць тадышняга настаяцеля, айца Антонія Дзевятоўскага, якога зараз няма ўжо ў жывых, а які ў Гайнаўцы служыў больш чым 40 гадоў і быў адным з арганізатараў Фестывалю.

— Я запамятаў першыя сустрэчы з царкоўнай музыкай па прычыне тэлебачання. Поўнасцю абрэзалі маё выказванне перад камерай наконт магчымасцей развіцця праваслаўя, паколькі яно не супадала з тадышняй ідэалогіяй, — гаворыць Міхал Байко, які ад самага пачатку ўключыўся ў арганізацыю спатканняў з царкоўнай музыкай. — Хаця рашыліся паказаць нашу царкву па тэлебачанні, падабралі час, калі ўсюды адбываліся багаслужэнні, у 10 гадзін раніцы. Гэта быў студзень 1983 года і я быў на пасяджэнні БГКТ у Беластоку, але і там нам не дазволілі глядзець, дык падаўся я ў міліцэйскі інтэрнат на дваццаціхвілінную перадачу. Калі я вярнуўся ў Гайнаўку, высветлілася, што ад дзесяці да адзінаццаці раніцы была аварыя электрычнасці і чацтка Бельшчыны і ўся Гайнаўшчына не магла ўбачыць сваіх знаёмых. У такіх вось умовах пачыналі мы працу.

[працяг ☞ 3]

## Экспартная дэмакратыя

Польскія палітыкі, супрацоўнікі ўсялякіх фондаў, якіх бюджэт складаюць выключна замежныя сродкі, выконваюць ролю настаўнікаў, якія ведаюць як змагацца з пракамуністычнай і прамаскоўскай дыктатурай. З другога боку беларуская таварышы дэмакраты, прадстаўляючы чорны вобраз рэчаіснасці ў сваёй краіне, паказваюць сябе як змагароў і пакутнікаў за чалавечыя і грамадзянскія правы пад дыктатурай Лукашэнкі. Большасць з іх апазіцыйную дзейнасць пачынае з моманту перасячэння мяжы Беларусі з Польшчай і ў гэтым самым месцы спыняе яе, вяртаючыся назад.

[фельетон ☞ 4]

## Незалежнасці страта — найцяжэйшая здрада!

Агульнавядома, што ва ўсім свеце кожны, нават самы маленькі народ заўсёды імкнецца да Запаветнай Незалежнасці, часам стагоддзямі вядучы за гэта жорсткую барацьбу з прыгнятальнікамі-каланізатарамі. І толькі наш цяперашні, ушчэнт запалоханы і моцна замбіраваны шматпакутны беларускі народ, які ў 1991 годзе цудоўным чынам атрымаў Незалежнасць, хоча яе добраахвотна страціць, безаглядна і неабачліва пхнучыся ў абноўлены хаўрус з мачыхай — Расіяй.

[фельетон ☞ 4]

## Дом пад Трыма дубамі

Марыся Пень не ведае, што робіцца цяпер у яе доме ў Тафілаўцах. Уцякла адтуль — ад пакуты, ад нядобрага кахання бездадказнага чалавека, ад болю. Цяпер яе домам — дом апекі. Час ад часу хацелася б ёй паехаць дахаты, пайсці на могілкі — наведаць брата, бацькоў, знаёмых. Яна з дому апекі ў Харошчы можа, як адзіная з яго жыхароў, выходзіць у горад адна.

[рэпартаж ☞ 9]

## Успаміны з мінулай эпохі

Маючы свядомасць праміналня часу, кожны чалавек штораз глыбей пачынае задумвацца над сэнсам жыцця ўвогуле і свайго ўласнага ў прыватнасці. У бяссонныя ночы аддаецца ўспамінам аб мінулым, аналізуе яго, задаючы сабе пытанне, ці пражыў сваё жыццё прыстойна, аптымальна, ці змарнаваў яго. З перспектывы мінулага часу можна ўжо з поўнай адказнасцю сказаць, што ў жыцці бывае многа як добрага, разумнага, радаснага, сур'ёзнага, так і нямала нядобрага, сумнага, смешнага і нават дурнаватага, — піша Васіль Сакоўскі.

[пачатак цыкла ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Дэфіцыт вярнуўся

У крамах цяжка купіць прадукты, прычым самыя звычайныя — мяса, сыр, вараную каўбасу, курыцу... Дэфіцыт трымаецца ўжо не першы дзень.

Учора мы абышлі некалькі сталічных крамаў, і паўсюль сітуацыя была прыкладна аднолькавая: у мясных аддзелах на паліцах ляжалі счарнелыя ад часу супавыя наборы костак, курыныя лапкі з кіпцюрамі і вэнджаныя каўбасы коштам ад 200 тысячаў рублёў і вышэй. Не было ніякіх сасіскасардэлек. На Камароўскім рынку ў выхадныя дні можна было купіць адносна танную вараную каўбасу Барысаўскага мясакамбіната па 115 тысячаў за кілаграм. Праўда, трэба было адстаяць немалую чаргу.

Чым выкліканы дэфіцыт прадуктаў? У Міністэрстве гандлю сцвярджаюць, што ніякага дэфіцыту няма, а ёсць „часовыя перабоі паставак асобных тавараў”. Міністэрскі прэс-сакратар Лявонаў тлумачыць гэта тым, што скаціну нарэшце вывелі пасля зімы з хлявоў на пашу, і таму рэзка скарацілася вытворчасць мяса. Праз месяц-два, маўляў, жывёла набярэ вагу і гаспадаркі адновяць пастаўкі мяса на камбінаты ў поўным аб'ёме. Па словах прэс-сакратара, перабоі з каўбасою назіраюцца толькі ў Мінску, а ў цэлым па краіне выраб гэтай прадукцыі ў параўнанні з мінулагоднім перыядам нават узрос на 18 працэнтаў. Міністэрства гандлю працуе над ліквідацыяй перабояў, і ўжо ёсць пэўныя поспехі, сказаў Лявонаў. Напрыклад, праблему курынага мяса ўжо паспяхова вырашылі і забяспечылі народ якаснымі курынымі кумпячкамі амерыканскай вытворчасці (каштуюць гэтыя „ножкі Буша” ўсяго нейкіх 108 тысячаў рублёў).

**Дзе прадукты?**

Уся праблема ўпіраецца ў вядомы ўказ Лукашэнкі, у адпаведнасці з якім рост цэнаў на тавары не павінен перавышаць двух працэнтаў у месяц. Натуральна, гаспадаркам нявыгадна прадаваць дзяржаве мяса па заніжаных цэнах. У сваю чаргу і мясакамбінаты не хочуць выпрацоўваць танныя гатункі вараных каўбасаў, бо іхні сабекошт значна вышэйшы за тую цану, па якой гэтую каўбасу прадаюць у крамах. Прадпрыемствам значна выгадней вырабляць дарагія вэнджаныя гатункі, на якія не распаўсюджваецца прэзідэнцкія абмежаванні. Вараную каўбасу цяпер вырабляюць нешматлікія, пераважна, правінцыйныя мясакамбінаты, але і гэтая вытворчасць скарачаецца. Працаваць сабе ва ўбытак ніхто не хоча.

Па словах дырэктара адной з мінскіх крамаў, ён кожны тыдзень накіроўвае сваіх падначаленых у Клецк, Слуцк, Барысаў і іншыя гарады, дзе яны заключаюць прамыя дагаворы з прадпрыемствамі на набыццё любімай у народзе каўбасы. Часам ім удаецца раздабыць для свайго магазіна скрыню-другую запаветнай прадукцыі, але такая прадпрымальнасць, зразумела, праблемы не вырашыць. Нават папярэдне заплаціўшы прадпрыемству грошы за тавар, крама тыднямі чакае яго прывозу. „Дэфіцыт сам па сабе не знікне, пакуль улады не здымуць з вытворцаў нікому непатрэбныя абмежаванні і не пачнуць кіравацца ў сваёй эканамічнай дзейнасці здаровымі рыначнымі прынцыпамі”, — лічыць гэты дырэктар.

А тым часам пайшлі чуткі, што дзяржава рыхтуецца вярнуць савецкую картачную сістэму размеркавання тавараў першай неабходнасці. Аднак чыноўнікі з Мінгандлю сцвярджаюць, што ніякіх картак на прадукты харчавання ўводзіцца не будзе. Але чуткі небеспадстаўныя. Напрыклад, у некаторых беларускіх рэгіёнах ужо лімітаваны продаж тавараў „у адны рукі”.

**Альгерд Невяроўскі**
*„Свабода” № 56 (49) 13.05.1998 г.*

## Беларусы на Украіне

Беларусы займаюць трэцяе месца па колькасці сярод этнічных меншасцяў Украіны, там дзейнічаюць 20 беларускіх нацыянальна-культурных таварыстваў.

Як паведаміў беларускі пасол на Украіне Віталій Курашык, у раёнах, дзе кампактна пражываюць беларусы, у некаторых школах факультатыўна вывучаецца беларуская мова. У Львове беларускім нацыянальна-культурным таварыствам імя Ф.Скарыны выдаецца на беларускай мове газета „Беларус Галічыны”, транслююцца 15-хвілінныя перадачы па радыё „Весткі з Рэспублікі Беларусь”. Па просьбе пасольства Беларусі ў кіеўскай бібліятэцы „Дружба народаў” выдзелена памяшканне для адкрыцця асобнага аддзела беларускай літаратуры.

Пры садзейнічанні беларускіх таварыстваў у Кіеве і Львове, адзначыў пасол, у Беларусь вернуты помнікі нацыянальнай культуры, знойдзеныя ва ўкраінскіх музеях. Сярод іх, у прыватнасці, пяць ікон XIV стагоддзя, якія па волі лёсу апынуліся пасля II сусветнай вайны ў Кіева-Пячорскім дзяржаўным запаведніку. Беларусы Львоўшчыны вядуць перамовы аб вяртанні на радзіму двух слуцкіх паясоў і Біблії Ф.Скарыны, што знаходзяцца ў фондах Украінскага нацыянальнага музея. У каталог перыядычных выданняў Украіны ўключаны 60 найменняў беларускіх газетаў і часопісаў. **БелаПАН**

*„Свабода” № 57 (52), 20.05.1998 г.*

**Мяжа — гэта не толькі слупы**

## Еўрапейскі Саюз дапаможа Літве ахоўваць мяжу з Беларуссю

Кіраўнік дэлегацыі Еўракамісіі ў Літве Генрык Шмігялёў паабяцаў паспрыяць у фінансаванні праектаў аховы літоўска-беларускай мяжы. У Бруселі, цэнтры еўрапейскіх структур, пераважае меркаванне, што ўсходняя мяжа Літвы ў будучым стане знешняй мяжой Еўрасаюза, таму неабходна палепшыць яе ахову, сказаў дыпламат журналістам.

Разам з амбасадарамі заходніх краінаў Шмігялёў на мінулым тыдні агледзеў літоўска-беларускую мяжу. На заставе ў Медніках (Мядзінінкай) дыпламаты падняліся на вежу назірання вышынёй 30 метраў, адкуль можна назіраць за плошчай у 20 квадратных кіламетраў. Літва ўжо мае шэсць такіх вежаў на мяжы з Беларуссю, плануецца пабудаваць яшчэ чатырнаццаць.

Агульная працягласць літоўска-беларускай мяжы складае 650 кіламетраў, кожная краіна павінна дэмаркіраваць па 325 кіламетраў. Літва ўжо абуладкавала свае 230 кіламетраў мяжы ў адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі. Беларусь пакуль ставіць часовыя слупы, але неўзабаве пачне ўстаноўку пастаянных на чатырох самых важных участках мяжы па 30 кіламетраў.

**BNS-БелаПАН**
*„Свабода” № 57 (52), 20.05.1998 г.*

## Пасол ЗША ў Беластоку

Пасол ЗША ў Польшчы Даніэль Фрыд пабываў у Беластоку 26 мая. Ён сустрэўся з уладамі горада і ваяводства і мітрапалітамі абедзвюх хрысціянскіх Цэркваў. Д. Фрыд наведаў таксама Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча—Беларусь, пазнаёміўся з яго дзейнасцю і планамі на будучыню.

Пасол меў намер сустрэцца з лідэрамі асноўных беларускіх арганізацый. На яго здзіўленне, на дамоўленую сустрэчу не прыйшлі ні Валянціна Ласкевіч, сакратар ГП БГКТ, ні старшыня Асацыяцыі славянскай меншасці — праваслаўныя Яўген Чыквін. У выніку пасол правёў размову толькі са старшынёй Беларускага саюза Яўгенам Вапам. Д. Фрыд цікавіўся становішчам беларускай меншасці на Беласточчыне і польска-беларускімі адносінамі.

**Алег Латышонак**

# Мы прачыталі

*W Urzędzie Wojewódzkim w Białymstoku działa kilkuosobowe biuro informacyjne, które zajmuje się głównie pisaniem przemówień dla wojewody Krystyny Łukaszuk, dezinformujących zresztą społeczeństwo. I tak ostatnio pani wojewodzie Łukaszuk święto uchwalenia Konstytucji 3 Maja pomieszało się z kościelną uroczystością koronacji Marii Królowej Polski. Oficjalne komunikaty wojewody białostockiego są o kilka dni spóźnione i powielają stylistykę przemówień sekretarzy PZPR. Przykłady białostockiej nowomowy: „omawiane zagadnienia w szczególności dotyczyły kryteriów”, „spotkania pozwoliły wyjaśnić wiele wątpliwości i obaw”. Styl późnego Gomułki i średniego Gierka. Brak tylko w tych przemówieniach i komunikatach wojewody jakiejkolwiek informacji.*

*Kurier Poranny, nr 113*

* * *

*Beatyfikacja pułkownika Kuklińskiego oznacza, że stało się coś niedobrego w stosunkach polsko-amerykańskich. Polska winna być dla Stanów Zjednoczonych sojusznikiem i partnerem, ale Polska nie powinna sugerować, że stanie się w przyszłości zbiorowym pułkownikiem Kuklińskim. Jeżeli cały ten festiwal związany z pobytem Kuklińskiego ma oznaczać, że stosunek do niego i amerykańskich służb specjalnych jest miernikiem patriotyzmu Polaków, oznacza to żałosny finał polskiego marzenia o wolności,* — піша Адам Міхнік.

*Gazeta Wyborcza, nr 109*

* * *

*W połowie lat 80., kiedy realny socjalizm chylił się ku upadkowi, na studia trafiał co drugi maturzysta z rodziny inteligenckiej, co siódmy z robotniczej i co czternasty z chłopskiej. Dziś po zmianie ustroju, gdy szanse życiowe zależą od wykształcenia, jest jeszcze gorzej. Studiuje co 140 dziecko chłopskie. Przed nami projekt rządu wprowadzenia odpłatności za studia.*

*Polityka, nr 20*

* * *

*Самым бедным у Беларусі з'яўляецца А. Лукашэнка. Менавіта такім стараецца ён паказаць сябе перад вачыма легкавернага электарату. У сваіх публічных выступах падкрэслівае, што нічога не мае. Аляксандр Пупейка, які ўцёк ад Лукашэнкаўскай ласкі заявіў: „А асабісты фонд прэзідэнта складае 500 000 000 долараў”.*

*Беларус, н-р 453*

Віншуем прэзідэнта з ашчаднасцю!

* * *

*Что, тебе Россия не нравится? — пытаюцца міліцыянты, суддзі і пракуроры палітычна затрыманых у Беларусі.*

*Тыднёвік Магілёўскі, н-р 7*

Але пры чым тут „Россия”, таварышы? Здесь Белоруссия!

* * *

*У акупаванай немцамі Беларусі змагаліся між сабою дзве ідэалёгіі — нямецкі фашызм і расейскі камунізм. Мы, беларусы, былі для іх зусім чужыя.*

*Па ўсёй акупаванай краіне існавала беларускае школьніцтва. Простыя вясковыя школкі, дзе з дзецьмі гаварылі на іхняй мове, часта рабіліся аб'ектам нападу савецкіх партызанаў. Настаўнікаў партызаны забівалі. Саветы пішучы пра беларускіх калабарантаў згадваюць пра Беларускую Краёвую Абарону, Саюз Беларускай Моладзі, беларускія газеты, што выходзілі за нямецкія грошы. Усё гэта было антысавецкае, пранямецкае, але заўсёды і перад усім — беларускае. Савецкая партызанка была антыбеларуская паводле сваёй сутнасці, ніяк не менш антыбеларуская за гітлераўскі фашызм. Але калі так, то якім чынам мы мусім разглядаць беларускую савецкую культуру, якая стаіць на баку савецкай партызанкі?*

*Наша ніва, н-р 9*

* * *

*Czy wiesz, że mężczyźni zakochują się od pierwszego wejrzenia, kobiety od drugiego, a telewizja niszczy pożądanie, bowiem ciągle zmieniające się obrazy na ekranie powodują, że nasz mózg wydziela endorfinę. Po 2-3 godzinach wyczerpują się zapasy, a my tracimy ochotę na seks. Czy wiesz, że mężczyźni szybciej pragną kontaktu fizycznego, a kobiety są na początku bardziej wstrzemięźliwe?*

*Oliwia, nr 5*

Такім зместам запоўнены 136 старонак гэтага штомесячніка для жанчын. На высокаякаснай паперы і з каляровымі здымкамі, часопіс ад першай да апошняй старонкі заяўляе сваім чытачам: „ведаем пра ваш інтэлект і за гэта вас любім”.

* * *

*Мінскае „Дынама” ўступіла ў Ліберальна-дэмакратычную партыю Беларусі, якая з'яўляецца аддзяленнем партыі Уладзіміра Жырыноўскага. Футбольны клуб „Дынама” сутыкнуўся апошнім часам з вялікімі цяжкасцямі. Футбалістам зарплату не выплачвалі некалькі месяцаў, каманда была на мяжы развалу. Таму кіраўніцтва клуба выказала жаданне стаць калектыўным членам ЛДПБ.*

*Звязда, н-р 103*

Яшчэ год таму падчас матчаў „Дынама” тысячы фанатаў клуба аб'яўлялі свае пачуцці бел-чырвона-белымі сцягамі. Сёння прыйшлося пакланіцца Жырыноўшчыне.

# Заўсёды Сабор быў поўны

[1 ☞ працяг]

**Прыехалі спявацъ**

Ад аўторка да суботы праходзілі конкурсныя выступленні 35 хораў з 11 краін. Спачатку можна было паслухаць спеву парафіяльных вясковых хораў з Белавежы, Дубіноў, Ласінкі, беластоцкіх Фастаў і Калантаяў, што на Беларусі. Пасля выступалі прадстаўнікі парафіяльных гарадскіх, свецкіх аматарскіх і прафесійных хораў. З Беларусі на гэты раз прыехалі чатыры хоры. Апрача ўспамянутага парафіяльнага, хор Менскай духоўнай школы, хлапечы з Брэста, дзявочы „Раніца" з Менска і Дзяржаўны камерны хор Рэспублікі Беларусь таксама з Менска. Сярод замежных хораў увагу публікі прыцягнуў копцкі хор з Егіпта, які з'яўляецца адлюстраваннем іншай культуры. Хаця хоры з Кіпра, Македоніі, Нямеччыны і Румыніі спявалі на незразумелай для большасці мове, захаплялі духоўнасцю спеву і прыгажосцю галасоў. Ужо традыцыйна прыехала таксама многа хораў з Расіі і Украіны. Ад імя Беласточчыны выступалі харысты з Гайнаўкі, Бельска-Падляшскага і Беластока. Вялікая колькасць хораў, а ўсіх цяжка тут пералічыць, давала слухачам магчымасць паслухаць і старадаўнія малітвы, і царкоўныя напевы, і сучасныя кампазіцыі. Мерапрыемства самай высокай „нулявой катэгорыі" не патрабавала дадатковай рэкламы. Заўсёды Сабор быў поўны, а многа людзей слухала і звонку. Па тварах людзей відаць было, што малітва і царкоўны спеў патрабуюць асаблівай увагі, цішыні і засяроджанасці.

— Такое мерапрыемства ў Гайнаўцы — гэта асаблівае здарэнне, — гаварыў гайнавянін. — Гэта ж міжнародны ўзровень хораў. Я абавязкова штогод прыходжу сюды.

Выступленні хораў не канчаліся аднак на Саборы Святой Тройцы. Многа харыстаў спявала ў Саборы Святога Духа ў Беластоку, Дубічах-Царкоўных, Рыбалах, Гарадку, Боцьках, Драгічыне, Саколцы, Сямятычах, Чаромсе, Варшаве, Кракаве і іншых гарадах Польшчы.

**Пераможцамі сталі**

На гала-канцэрце, які адбыўся ў нядзелю 31 мая, абвешчаны былі рашэнні журы. У катэгорыі вясковых парафіяльных хораў першынства дабіўся парафіяльны хор з Фастаў, што каля Беластока, а вылучэнне атрымаў маладзёжны хор з Белавежы. Сярод парафіяльных гарадскіх хораў журы першынствам абдзяліла моладзь з Санока і вылучыла два хоры гайнаўскага Сабора Святой Тройцы (маладзёжны і дарослых). У групе хораў парафіяльных іншых на першым месцы апынуўся хор „Аранта" з Луцка (Украіна). У гэтым годзе прыехала 13 хораў свецкіх, якія традыцыйна спявалі ў дзвюх групах. Сярод аматарскіх свецкіх хораў першае месца і ўзнагароду старшыні Польскага тэлебачання атрымаў Акадэмічны хор Політэхнічнага інстытута з Глівіцаў. Першую ўзнагароду ў групе прафесійных свецкіх хораў і абавязак адкрыцця Фестывалю ў наступным годзе атрымаў Дзяржаўны акадэмічны расейскі хор імя А. В. Свешнікава з Масквы. Гэты хор, вядомы за межамі Расеі больш чым пяцьдзесят гадоў, вельмі спадабаўся і гайнаўскай публіцы.

Другі гала-канцэрт адбыўся ў Беластоцкай філармоніі.

**Аляксей Мароз**

# Цішыня перад бурай

Пра пасажырскі чыгуначны транспарт загаварылі сродкі масавай інфармацыі, асабліва пасля сакавіцкага выступлення цэнтральнай чыгуначнай дырэкцыі ў Варшаве да беластоцкага ваяводы ў справе планаваных змен у гэтай галіне. Своеасаблівы настрой і шмат непатрэбнага хвалявання ў грамадстве выклікала вестка аб ліквідацыі чыгуначнай лініі Чаромха—Гайнаўка—Цісоўка, пра што якраз і напісаў Аляксей Мароз у артыкуле „У Гайнаўцы бунт" („Ніва" № 20 ад 17.05.1998 г.). Нядаўна высветлілася, што ў гэтым годзе цэнтральная дырэкцыя „не адважыцца" ажыццявіць сваю прапанову. Аб гэтым сведчыць новы расклад руху цягнікоў, які пачаў абавязваць на чыгунцы ад 24 мая 1998 г. Аналізуючы яго, трэба адзначыць, што як і ў мінулых гадах, не такі дасканалы ён, як пажадала б сабе грамадства. Аднак на ўвагу заслугоўвае факт, што чыгуначнікі акуратна паставіліся да прапаноў жыхароў Чаромхаўскай гміны і Пагранічнай аховы ў справе курсіравання брэсцкага і „школьнага" цягнікоў. „Школьным" я называю цягнік, які раней з Чаромхі ад'язджаў у Гайнаўку ў 6.17. (У Гайнаўцы быў перад сёмай). Амаль гадзіну школьнікі валэндаліся без справы па вуліцах горада. Зараз цягнік гэты ад'язджае ў Гайнаўку ў 7.06. Самы адпаведны час, бо вучням хапае гэтых 15 мінут, каб дайсці ў школу.

Вайскоўцы з Чаромхаўскай заставы Пагранічнай аховы выступілі з прапановай у ЦДОКП, каб цягнік Чаромха—Брэст прыходзіў раней на гадзіну (пры вяртанні з Брэста). Дагэтуль мала калі пасажыры паспявалі на цягнік у Гайнаўку („варшавяк"), які ад'язджаў у 19.55. Таксама і ў Беласток у 20.15 мала калі рэгулярна адыходзіў. Спазненні вынікалі па прычыне працяглых пашпартнага і мытнага кантролю.

Зараз цягнік з Чаромхі ў Брэст ад'язджае ў 12.05 (раней — 13.25), а вяртаецца з Брэста ў Чаромху ў 17.26. Значыцца, пасажыры паспеюць на цягнік у Гайнаўку ў 19.52 і ў напрамку Беластока цягнік у 20.05 адыдзе паводле раскладу.

Трэба адзначыць, што чыноўнікі з ЦДОКП у Варшаве акуратна паставіліся да прапаноў сваіх кліентаў. Цікава, на як доўга гэтае „зразуменне" замацавалася ў сталіцы?

Сакавіцкае выступленне дырэктара ЦДОКП да беластоцкага ваяводы прадказвае, што ў гэтай справе нельга быць аптымістам. Таму я раіў бы Гайнаўскаму грамадскаму камітэту, які заснаваўся пры Гарадской радзе быць гатовым на далейшыя сюрпрызы дзяржаўнай чыгункі. Бо „ліхое не спіць" — як у нас кажуць. Новая распіска цягнікоў можа таксама прадвяшчаць „цішыню перад бурай".

**Уладзімір Сідарук**

# Прыгажосць Палацавага парку

**Летнія месяцы — перыяд адпачынку моладзі і дарослых. Стомлены навукай і працай чалавек шукае тады саюзніка, які дапамог бы яму аднавіць фізічныя і псіхічныя сілы і найчасцей знаходзіць яго ў прыродзе. У нас найбольш каштоўным астраўком першабытнай прыроды з'яўляецца Белавежская пушча.**



*Стары мосцік на рацэ Нараўцы (з боку скансэна).*

Белавежскі нацыянальны парк заснаваны быў у 1921 годзе па ініцыятыве групы выдатных польскіх прыродазнаўцаў, якіх узначальваў прафесар Уладзіслаў Шафер. Юрыдычны статус парк атрымаў толькі ў 1932 годзе і канчаткова быў ён пацверджаны распараджэннем Рады Міністраў ад 1947 года.

Белавежскі нацыянальны парк састаўляюць Палацавы парк, зона абсалютнай аховы плошчаю ў 4 747 гектараў ды рэзерваты зуброў, тарпанападобных коней і іншых відаў пушчанскай фауны.



*Кучка дубоў перад музеем.*

50-гектарны Палацавы парк знаходзіцца на Белавежскай паляне і быў заснаваны ў час будовы царскага палаца ў канцы XIX стагоддзя на месцы колішняга парку саскага часу. Парк разбіты быў паводле англійскага ўзору па праекце Валерыя Кроненберга. На тэрыторыі парку расце 90 відаў дрэў і кустоў, у тым ліку 60 рэдкіх раслін. Побач характэрнай Белавежскай пушчы расліннасці сустракаюцца тут хвоя веймутава, дуб шарлахавы і балотны, лістоўніца — еўрапейская, сібірская і японская, елка канадская ці бяроза папяровая.

Палацавы парк — цэнтр турыстычнага руху. Адгэтуль, цераз драўляную браму, пабудаваную па праекце архітэктара Ясінскага з Кракава, экскурсіі выходзяць у рэзерваты і зону абсалютнай аховы. У паўднёвай частцы Нацыянальнага парку цячэ рэчка Нараўка, аддзеленая грэбляй ад двух ставоў з выспамі. Ставы былі створаны шляхам запруджвання Нараўкі. Водзяцца на іх лебедзі-шыпуны, качкі-крыжанкі, вясною і восенню залятаюць сюды гагары палярныя і паганкі вялікія. Летам на ставах цвітуць жоўтыя і белыя гарлачыкі (абодва віды ахоўваюцца законам). На грэблі, што раздзяляе ставы, стаіць абеліск, які ўвекавечвае паляванне караля Аўгуста III ад 27 верасня 1752 года. Там знаходзіцца таксама самы старадаўні будынак — колішняя лесніčоўка 1845 года.

У Палацавым парку стаяць будынкі з чырвонай цэглы, узведзеныя ў XIX стагоддзі: казацкая стайня, маршалкаўскі дом і палацавая брама. Непадалёк, на месцы колішняга паляўнічага замка (пазней: царскага палаца, які згарэў у ліпені 1944 года) у 1964-1970 гадах быў пабудаваны турыстычны комплекс — гасцініца „Іва", рэстаран і Прыродазнаўчы музей. Перад музеем расце кучка 250-гадовых дубоў — астатак дрымучых лясоў, якія калісьці суцэльна парасталі сённяшнюю Белавежскую паляну. Летам на дэкаратыўных газонах цвіце, між іншым, залатацвет, шалфей лугавы, казлабарод і званочак раскідзісты, ствараючы райграсавы луг на месцы колішняга ліставога лесу.

Палацавы парк — занесены ў спіс асабліва ахоўваемых помнікаў прыроды — ахвотна наведваюць замежныя і айчынныя турысты.

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Незалежнасці страта — найцяжэйшая здрада!

На працягу некалькіх апошніх гадоў (як здаецца толькі на першы погляд) ідзе як бы сапраўды бяскрыўдная дзіцячая гульня ў так званую інтэграцыю (аб'яднанне) паміж Расіяй і Беларуссю.

Аднак, на вялікі жаль, гэта не зусім і нават далёка не так.

Агульнавядома, што ва ўсім свеце кожны, нават самы малалікі этнас (народнасць) заўсёды імкнецца да Запаветнай Незалежнасці, часам стагоддзямі вядучы за гэта жорсткую барацьбу з прыгнятальнікамі-каланізатарамі. Як гэта, дарэчы, рабілі і нашы слаўныя продкі (успомнім хоць бы перамогу Астрожскага, Грунвальдскую бітву, паўстанні пад кіраўніцтвам Касцюшкі і Каліноўскага, Слуцкі ўзброены чын). А хіба не пацвярджаюць гэту банальную ісціну цяперашнія падзеі ў Ічкерыі, Абхазіі, Нагорным Карабаху, Паўночнай Ірландыі, Курдыстане, Сербскай правінцыі Косава...?!

І толькі наш цяперашні, ушчэнт запалоханы і моцна замбіраваны шматпакутны беларускі народ, які ў 1991 годзе цудоўным чынам атрымаў такую доўгачаканую, такую святую і дарагую для сапраўдных беларусаў Незалежнасць, у значнай ступені па злой волі нашага цяперашняга безадказнага і злачыннага вышэйшага кіраўніцтва хоча яе (гэту Святыню — Незалежнасць) добраахвотна страціць, безаглядна і неабачліва пхнучыся ў абнўлены хаўрус з мачыхай — Расіяй.

Такая вось наша незайздросная і вельмі сумная рэчаіснасць, такі вось незвычайны і цалкам незразумелы парадокс! Сапраўднае блюзнерства дый годзе!

Шкада Вас і Вашага атачэння, спадар Лукашэнка, што Вы так доўга і так дбайна прыніжаеце, знеслаўляеце нашу любую родную Беларусь і яе народ, па-халопску адбіваючы нізкія паклоны ў шыкоўных маскоўскіх палацах перад Ельцыным, Чарнамырдзіным і іжэ з імі.

Вы ж выдатна разумееце, што няма на свеце такога гаспадара (асабліва, калі ён вельмі сквапны на чужое і моцна заняпалы), які б не пашкадаваў ды не прыняў (прабачце за грубае і непрыемнае параўнанне) прыблудную бязмозглую авечку.

Калі Вы, спадар Лукашэнка, хоць і на паперы, але ўсё ж (не дай Бог!) здзейсніце палітычнае аб'яднанне Беларусі з Расіяй, Вы тым самым прылюдна, прынародна, перад усім сусветным супольніцтвам уласнаручна распішацеся ў сваёй здрадзе Беларусі і яе народу, у сваёй поўнай амаральнасці і беспрынцыповасці, у сваёй бесхрыбетнасці і бездапаможнасці, у сваёй непрыгоднасці і неадпаведнасці высокаму і пачэснаму званню кіраўніка Незалежнай Суверэннай Дзяржавы.

Вы, нарэшце, наклічаце на сябе і сваіх нашчадкаў справядліва праклён здаровай, нацыянальна свядомай, дэмакратычнай часткі беларускай нацыі.

У выніку ўсяго гэтага Вы паставіце асінавы крыж на сваёй кар'еры, заўчасна стаўшы палітычным трупам.

Адумайцеся, пакуль яшчэ не зусім позна!

Няўжо ж здаровы сэнс не возьме верх над Вашымі амбіцыямі і хімерай?!

**Алесь Ляскоўскі**
**в. Сугакі Ваўкавыскага р-на**

# Экспартная дэмакратыя

Апошнім часам часта меў я нагоду слухаць як палякі раілі беларусам як перайсці шлях ад дыктатуры да дэмакратыі. Выглядае гэта заўсёды вельмі забаўна і тэатральна. Польскія палітыкі, супрацоўнікі ўсялякіх фондаў, якіх бюджэт складаюць выключна замежныя сродкі, выконваюць ролю настаўнікаў, якія вучаюць як змагацца з пракамуністычнай і прамаскоўскай дыктатурай. Прыкідваюцца прытым, што яны заклапочаны лёсам грамадзян Беларусі і адчуваюць патрэбу сплаты маральнай задоўжанасці за дапамогу, атрыманую антыкамуністычнай апазіцыяй падчас ваеннага становішча ў Польшчы. З другога боку беларускія таварышы дэмакраты, прадстаўляючы чорны вобраз рэчаіснасці ў сваёй краіне, паказваюць сябе як змагароў і пакутнікаў за чалавечыя і грамадзянскія правы пад дыктатурай Лукашэнкі. Большасць з іх апазіцыйную дзейнасць пачынае з моманту перасячэння мяжы Беларусі з Польшчай і ў гэтым самым месцы спыняе яе, вяртаючыся назад. Такая апазіцыйнасць стала для іх прафесіяй, спосабам на нейкае ўладкаванне ў жыцці. Такая апазіцыя таксама вельмі патрэбная рэжыму Лукашэнкі. Прысутнасць у краіне такіх рэвалюцыянераў нічым не пагражае дыктатуры, а прытым заўсёды можна іх паказваць вонкаваму свету як існуючы палітычны фактар.

Палітыкі з Беларусі са званнямі лідэраў апазіцыйных партый, былых міністраў, а нават прэзідэнтаў, старшыняў усялякіх фондаў, цэнтраў, дырэктараў „незалежных" інстытутаў і іншых устаноў вельмі патрэбны цяпер таксама ў Польшчы, але ў якасці статыстаў падчас усялякіх канферэнцый, курсаў, сімпозіумаў. Лозунг „дэмакратыя для Беларусі" адкрывае немалы ручаёк грошай. Трэба затым весці нейкую дзейнасць, каб такі ручаёк не высыхаў надта хутка. Часам арганізаваць канферэнцыі пра Беларусь бяруцца людзі, якія не надта нават ведаюць, чым такая сустрэча адрозніваецца ад банкету ладжанага прафсаюзам у фабрычнай сталовай. Нядаўна я атрымаў запрашэнне да ўдзелу ў „міжнароднай канферэнцыі", дзе ў праграме па чарзе адзначана: „śniadanie; nabożeństwo ekumeniczne; udział w koncercie; obiad; kolacja, zabawa przy ognisku, występ zespołu folklorystycznego". На гэтым канферэнцыйны дзень канчаецца. Арганізатары заяўляюць, што ў канферэнцыі прыме ўдзел шмат вядомых беларускіх і польскіх палітыкаў. Праўдападобна, падчас абедаў і гульняў пры вогнішчы палякі яшчэ раз прадставяць свой рэцэпт на дэмакратыю, а другі бок ветліва іх выслухае.

Падчас такіх інтэлектуальных кантактаў не прыйшлося мне заўважыць, каб нехта з удзельнікаў дыскусіі ўлічваў прысутнасць у космасе такога фактара як рэальная краіна Беларусь і яе жыхары. Жыхары, але такія, якія яны ёсць, таму што пра такіх, якімі павінны яны быць гаворыцца безупынна. Лозунг „дэмакратыя" нічога ў Беларусі не абазначае. У вачах г.зв. Еўропы сімваламі дэмакратычнага руху з'яўляюцца палітыкі, якія ніколі не скрывалі, што адзіны выхад для Беларусі бачылі ў інтэграцыі краіны з Расіяй. Рэалізавалі б яны тую самую палітычную лінію што Лукашэнка, толькі больш памяркоўна, не выклікаючы такіх адмоўных рэакцый у свеце як пануючы прэзідэнт. Што магла б прадстаўляць у Беларусі дэмакратыя пры адсутнасці нацыянальнага фактара?

Грамадства ў Беларусі не чакае ні дэмакратыі, ні неабходнага для існавання такой сістэмы самакіравання. Аграмадная большасць патрабуе моцнай улады, справядлівага кіравання. Лукашэнка не робіць нічога іншага апрача стварэння ілюзіі, што з'яўляецца ён суровым, але і справядлівым „бацькам народа". Ідзе згодна з агульнай псіхалагічнай плынню тамашняга грамадства. Не ён стварыў гэты стан, а толькі стаў неабходнай яго часткай, элементам сістэмы.

Дэмакратыю ў Еўропе і Амерыцы стваралі дзесяткі пакаленняў. Трывала гэта сотні гадоў. Але нават у тамашнім грамадстве нараджаліся рэвалюцыі, фашызмы, камунізмы, расізмы, генацыды. У Беларусі няма эліты, якая ўсур'ёз жыве ідэяй дэмакратыі, а прытым у сваёй дзяржаве. Большасць — гэта людзі, якія ў час вялікіх пераўтварэнняў баяліся ўзяць адказнасць за краіну, патрацілі час на безвынiковыя спрэчкі, а ў канцы амаль усе пачалі шукаць паратунку ў Маскве ці недзе ў іншых сталіцах. У 1996 годзе беларускія парламентарыі пабаяліся нават пазбавіць улады Лукашэнку (што было б згодна з законам), калі ён адкрыта аб'явіў пра свае планы ліквідацыі парламента. Выхаванне ва ўмовах візантыйскай палітычнай традыцыі аказалася мацнейшым за інстынкт самазахавання. Дэмакратыю ці беларускую незалежную дзяржаву маглі б пачаць будаваць толькі людзі, якія мелі б такую самую ўладу як Лукашэнка. Пытанне толькі адно: адкуль узяць фанатыкаў узнікнення такога стану і якім чынам маглі б яны атрымаць тыя механізмы, якія цяпер у руках разбуральнікаў усяго што беларускае і дэмакратычнае.

**Яўген Мірановіч**

# Нашы карані

**CXIX. З аднаго лёху ў другі**

У папярэднім адрэзку згадвалася пра ўладыку Віктара Садкоўскага, епіскапа мінскага. Садкоўскі закончыў Кіева-Магілянскую праваслаўную духоўную акадэмію, прыняў манаскі пострыг і неўзабаве быў рукапалажаны ў архімандрыта. Архіепіскап магілёўскі Георгій Каніскі, зведаўшы пра адданасць яго праваслаўю, дзелавітасць і здольнасці, запрасіў на памочніка ў сваю епархію. Спачатку архімандрыт Віктар працаваў рэктарам заснаванай уладыкам Георгіем Каніскім Магілёўскай духоўнай семінарыі, потым стаў ігуменам вялікага і заслужанага для праваслаўя на Беларусі Свята-Троіцкага манастыра ў Слуцку, на месца нядаўна памерлага ігумена Казачынскага. Тут неабходна заўважыць, што пры ігумене Казачынскім, за дазволам патрыярха канстанцінопальскага і па бласлаўленню мітрапаліта кіеўскага, у Слуцкі Свята-Троіцкі манастыр у 1775 годзе былі перанесены з Заблудава мошчы Святога Мучаніка Дзіцяці Гаўрыіла, бо ім пагражала знішчэнне ворагамі праваслаўя. У гэтым манастыры ўжо знаходзіліся мошчы святое Сафіі, княгіні Слуцкай, і іншыя бясцэнныя праваслаўныя святасці. Таму на ігумена слуцкага манастыра падала вялікая адказнасць перад усёй праваслаўнай Царквой у Рэчы Паспалітай.

Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай Магілёў адышоў да Расеі і праваслаўныя ў Рэчы Паспалітай засталіся без архірэя. Тады праваслаўная грамадскасць пры падтрымцы расейскага ўрада дамаглася адкрыцця Мінскай праваслаўнай епархіі з сядзібай у Слуцку. На епіскапа архімандрыт Віктар быў пасвячаны ў 1785 годзе, і яму была даручана Мінская епархія. Супраць стварэння Мінскай епархіі і пастаўлення на яе ўладыкі Віктара асабліва востра выступіла уніяцкая іерархія, а папскі нунцый нават падаў каралю пратэст. Да караля пасыпаліся розныя паклёпніцтвы на ўладыку Віктара і яго прымусілі прынясць прысягу на вернасць каралю, як чалавека нелаяльнага для Польшчы. Але і гэта не памагло, у 1789 годзе епіскапа Віктара зноў беспадстаўна абвінавацілі ў шпіянажы ў карысць Расіі і ўкінулі ў лёхі Нясвіжскай крэпасці. Прытым патрабавалі, каб ён падпісаў акружное пасланне да ўсяго праваслаўнага духавенства Рэчы Паспалітай з загадам быць безагаворачна паслухмянымі польскаму ўраду, яго чыноўнікам і ўсёй шляхце. Аднак і гэта не памагло: уладыку вывезлі ў Варшаву, а затым пасадзілі ў лёхі Яснагурскага манастыра ў Чанстахове. Выйшаў ён адтуль ужо пасля другога падзелу Рэчы Паспалітай, у 1793 годзе. Вярнуўся ў Слуцк і адразу разгарнуў шырокую дзейнасць: ён запрашаў уніятаў вяртацца ў праваслаўную Царкву. Парафіяльнае уніяцкае духавенства і народ як быццам бы чакалі таго, бо пачалі далучацца да праваслаўнае Царквы не толькі цэлымі парафіямі, але нават цэлымі благачыннямі, і за паўгода ў праваслаўе вярнулася цалкам дабравольна каля паўтара мільёна беларусаў і ўкраінцаў.

Турма, здзекі, цяжкая праца падарвалі здароўе святцеля. І хаця царкоўныя ўлады перавялі яго на лягчэйшую чарнігаўскую кафедру, архіепіскап Віктар Садкоўскі ў 1803 годзе памёр.

**Мікола Гайдук**

# Улады Цэнтра Польшча-Беларусь

22 мая г.г. адбылося першае вытворчае пасяджэнне Праграмнай рады Цэнтра грамадзянскай адукацыі Польшча—Беларусь, які працуе ў Беластоку з 31 студзеня г.г. Рада прыняла справаздачу з бягучай дзейнасці Цэнтра, адобрыла праекты планаваных мерапрыемстваў і выдзеліла са свайго саставу Прэзідыум Праграмнай рады. Яго старшынём стаў **Пётр Марцiняк** — палітолаг Польскай акадэміі навук, пасол Сейма папярэдняга склікання, намеснік старшыні сеймавай Камісіі замежных спраў. Ягонымі намеснікамі былі выбраны: **Анджэй Ануш** — пасол Сейма, сакратар Парламенцкага клуба Акцыі выбарчай „Салідарнасць" і член Прэзідыума ABC, член Генеральнай Асамблеі Савета Еўропы; **Збігнеў Бужк** — адзін з лідэраў падпольнай „Салідарнасці", пасол Сейма ў 1991-1997 гадах, член Краёвай управы Уніі вольнасці; **Сакрат Яновіч** — пісьменнік. Сакратаром Прэзідыума стаў **Войцех Ловец** — дарадчык Інстытута свабодных прафсаюзаў AFL-CIO, у 1991-1993 гадах старшыня Беластоцкага рэгіёна прафсаюза „Салідарнасць".

У пасяджэнні рады ўдзельнічаў **Валеры Буйвал** — генеральны сакратар Беларускага народнага фронту „Адраджэнне".

# Літаратурная старонка

**Месяц таму спыніла сваё існаванне Літаратурная старонка „Белавежа", па волі самога Літаб'яднання. Але „Ніва" не перастае цікавіцца беларускім літаратурным рухам у Польшчы. Нашы старонкі ў далейшым будуць даступны аўтарам, якія пішуць на беларускай мове — масцітым і пачаткоўцам, членам літаратурных аб'яднанняў і вольным птушкам. Запрашаем!**

Рэдакцыя

Міхась Андрасюк

# Крах

— 1 —

Чацвёрты месяц сталуюся ў пана Метка. Прыходжу заўжды раней, пакуль рабочыя з нашай — гэта значыць — хімічнай фабрыкі, пачнуць улівацца менш ці больш шматлікімі групкамі, прыносячы за нагамі добра мне знаёмы, хаця не вельмі прыемны смурод спаленага вугалю, перамешаны са смольным араматам шкіпінару.

Я і раней бываў тут, аднак не дзеля спажывецкіх мэт, а як і ўсе мае тагачасныя калегі, я заходзіў выпіць піва, пасядзець у вясёлай кампаніі і пабалакаць пра Марыніны ягадзіцы. Калісьці сказаў бы звычайна: „дупа Марыні", цяпер аднак я — сярэдняга калібру служачы, вораг піву і безразважнай балбатні — маю абавязак паводзіць сябе адпаведна да сваёй пасады. Мая лексіка сведчыць аба мяне і як лібералам агідная планавая гаспадарка, так мне агіднае слова „дупа".

Прысаджваюся з левага боку ад увахода, далёка ад цэнтра, там, дзе ніхто мяне не чапае, ды і я нікому не стаю на дарозе. Я не люблю, так сказаць, выступаць у святле юпітэраў — гэта першае, а другое — не хачу, каб хтосьці падумаў, што я такі як і яны: рабочы хімічнай фабрыкі. Дзеля падкрэслення сваёй тут — звышпіўнай — прысутнасці раскладаю на століку газеты „Палітыка" або „Літаратура", пералістваю іх старонка за старонкай, стараюся вылавіць нейкі цікавы, або — што галоўнае — развіваючы індывідуальнасць тэкст. Палітыкай не займаюся. Слова „палітыка" не менш мне агіднае за слова „дупа".

Рабочыя, прысеўшы за столікамі, расшпільваюць „артальёны" і джынсы, пералічваюць грошы, сцішанымі галасамі вядуць кароткія нарады. А потым п'юць

* * *

забяру за сабою
толькі сваё
адыходзячы
слёзы абсыхаюць
на паўдарозе
што
разваражыліся варожкі
ў маім свеце
ў паўголасе
іграе заблытанае

калі загамоняць
бярозы
народжаныя
ў другім свеце
прачнуся ўсё ж такі
з чаканнем

**Марыля Базылюк**

піва, кураць папяросы і струменяць дым між жоўтымі зубамі. Гамоняць. Галасней і галасней, найчасцей пра фабрыку, кіраўнікоў і зарплаты. Не цяжка здагадацца, што ў расказах іхніх, кіраўнікі — ідыёты, а зарплаты смешныя.

Мне непрыемна слухаць гэтыя гутаркі. У такіх выпадках заглыбляюся ў газету або стараюся аналізаваць прачытаную ў апошні вечар кніжку. Я і раней мала калі выходзіў адвячоркамі, а з гэтай пары як закончыў вечаровы тэхнікум, аддаю перавагу кніжкам. Іншая справа, што вуліцы ў нашым мястэчку таксама не зусім бяспечныя. Не далей як у кастрычніку, якраз каля малага базара наскочылі на мяне нейкія хуліганы. „Давай, — кажуць, — пулярэс, бздылю". — „А я пулярэс не дам, калі б мяне нават і рэзалі". Праўда, абышлося без нажоў і я, памяты крыху, затое з пулярэсам, павалокся ў паліцыю. Высветліў справу, што было і як а паліцэйскі кажа: „Адбівацца трэба, хуліганнё квітнее, а гэтак званае грамадства нат пальца за палец не зашморгне". А маё крэда такое: з ворагамі змагацца заўжды з дапамогай інтэлекту, а кулакамі хай вядуць свае войны адно прымітыўныя асобені.

Рабочыя пачалі якраз аплёўваць бюракратыю, якую — быццам бы — даводзіцца гадаваць ім на сваіх грудзях, а мне стала прыкра. Лёгка сказаць — бюракрат! А спытайце ў гэтых — як пагардліва кажаце — бюракратаў, хто такі Гётэ, хто Пікаса, а хто Дастаеўскі! Спытайце, бо самі пэўна не ведаеце. Не ведаеш Гётэ — значыць, твае кваліфікацыі якраз адпаведныя, каб белавежскую жывіцу ператвараць у шкіпінар. А я вось ужо чатыры месяцы працую ў бюро. Не скажу, пасада пакуль што не вельмі важная, аднак, і такія пасады не ляжаць на вуліцы, а ў школе. Хадзіў туды — значыць, ведаю. І дзякаваць, што нягледзячы на саракоўку, якая набліжаецца шпаркім крокам — я не ажаніўся. Жанатаму значна далей у школу. Па дарозе бывае ж яшчэ жонка, дзеці ды іншыя некарысныя для паглыблення ведаў перашкоды. Зрэшты — трэба вам ведаць — што ў справе жаніцьбы ёсць у мяне свой, дакладна абдуманы план: 1 — кватэра, 2 — адукацыя, 3 — пасада, 4 — машына, 5 — жонка, 6 — дзеці. Я прынцыпова трымаюся за тое, што сам сабе вызначыў і цяпер якраз выпаўняю пункт нумар чатыры.

Тым часам рабочыя, павесяліўшыся акуратна, пакінулі сумныя, прафесійныя праблемы ды ўчапіліся за дамска-мужчынскія справы, жэстамі рук — вельмі зрэшты выразнымі — паказваючы тое, што адбываецца час ад часу паміж мужчынам і жанчынай. Не магу змаўчаць, што карыстаюцца прытым вельмі прымітыўнай лексікай, раз-пораз устаўляючы словы, якія пачынаюцца з літары *п* або *х*.

Мне сорамна за іхнія прымітыўныя паводзіны, тым болей, што і члены персаналу прымушаны выслухоўваць такія — чужыя літаратурнай, культурнай а нават цывілізаванай мове — дрындушкі. Пан Метэк, праўда, па прычыне свайго ўзросту — мужчына спрактыкаваны, аднак афіцыянткі Марыся і Аня — незамужнія дзяўчыны і нахабнае грубіянства безумоўна пакіне след у іхняй, слаба яшчэ сфарміраванай псіхіцы.

Я толькі заціскаю зубы ад бяссілля, бо ведаю, што няма тут спосабу абараніць дзявочую нявіннасць. Раней, калі я прабаваў інтэрвеніраваць і сыскаць паводзіны бліжэйшыя еўрапейскай гуманістычнай традыцыі, пачуў адрасаваныя ў свой бок такія заўвагі: „казіны гарошак", „авечы памёт" і „псеўдаінтэлігенцік". Смею сказаць, што ўспомненыя эпітэты не маюць ніякага дачынення да маёй асобы, а ўжо апошняе — значыць — „псеўдаінтэлігенцік", асабліва балючае і крайне далёкае фактычнаму становішчу. З гэтай пары, як працую ў бюро, стараюся больш часу праводзіць з людзьмі свайго крою. За апошнія чатыры месяцы я нядрэнна зблізіўся з інжынерамі Стручуком і Кашалюком, а таксама з паннай Рэняй, машыністкай. Спалучылі нас не толькі супольныя прафесійныя праблемы, але — так прынамсі мне здаецца — аднолькавы погляд на свет, жыццё, як і чалавечую ролю ў тым жа жыцці і свеце. А гэта небанальныя вузлы.

Недзе пад восень інжынер Стручук запрасіў мяне на імяніны. „Пара, пане Владку, — сказаў ён, — паказацца шырокай публіцы". І я пайшоў. На пачатку я толькі сядзеў і слухаў як іншыя гавораць, глядзеў публіку дакладней, чым яна мяне, калі аднак гаворка сышла на Джэймса Джойса, надумаўся ўключыцца. Я сказаў, што, па-мойму, Джэймс Джойс — абсалютны графаман: у ягоным „Улісе" няма ніякага сэнсу, а апроч таго — быкі не брыюцца! Добра ведаю, бо хаця ў нашай вёсцы не было быка, якога клікалі б Маліган, усё-такі былі быкі з іншымі, таксама ж замежнымі імёнамі. Быў, скажам, Лорд, быў Чэмпіён, аднак, ні брытвай, ні іншымі туалетнымі інструментамі ніколі яны не карысталіся. Увогуле — бык прымітыўнае стварэнне і ўся ягоная актыўнасць заключаецца ў імкненні прадоўжыць свой быдлячы род. Пасля такога выступлення вочы ўсіх прысутных засяродзіліся на маёй асобе, а нехта, на жаль я не прыкмеціў хто, сказаў такое:

— Вельмі арыгінальны погляд на Джойса. Вельмі арыгінальны.

Мне зусім неспадзявана прыйшлося выпаўняць функцыю цэнтральнай тут асобы. Бывае такое: жыве чалавек спакойна, ніхто яго не ведае, а раптам лінія лёсу паварочвае ў другі бок і апошні ўзначальвае калону. Вось падышла і мая чарга.

Трэба вам ведаць, што падчас так дыскусіі, як і яды, мы не сядзелі за сталом абы толькі сядзець і абцяжарваць сябе ўсякім пітвом і закуссю. Так паводзіць ся-

* * *

Следам ідзе, што ў прасторы
пракладзены і цёплы яшчэ ён; звініць
падкаваны бот, суха шэргае па пяску
даўно перасыпаным босы ступак,
слова і цень ягоны ў матэрыю
і з матэрыі перакінутае, з гуку і
з прыску ў зерне, з якога хлеб
кладзецца на язык лустай, прычасцем
і выбухам смаку, сямізвонам думкі —

Следам ідзе мой след
па намагнічанай лініі,
па струне святла і шчылінай мораку
перабягае тое што наперадзе.

**Міра Лукша**

бе можна адно ў пана Метка, а тут быў шведскі стол, няхай сабе і не зусім практычны ў трохпакаёвай кватэры, аднак свет ідзе ў цывілізаваным напрамку і нам таксама трэба накіроўвацца ў той жа бок, забываючы памаленьку нездаровыя славянскія схільнасці.

Мы ўвесь час шпацыравалі па пакоі, падымалі дрынкі або тое, што каму падабаецца, далікатна замочвалі губы і шпацыравалі далей.

**Ноч над морам**

Выплыў з вадзяной прасторы
Поўны месяц залацісты.
Выкупаўся ў цёплым моры,
Стаўся крышталічна-чыстым.

І павіснуў у паветры,
Быццам лямпа Аладзіна.
Заглядае ў мора нетры,
Як у люстра гладзь жанчына.

Заблішчэлі звёзд каралі,
Астывае пляж да ранку.
І ціхутка мора хвалі
Зашумелі калыханку.

Засынае ўсё навокал
У падморскае старонцы.
Толькі месячыка вока
Выглядае стрэчы з сонцам.

**Віктар Швед**

Уцякаючы з цэнтра, я не прыкмеціў нават, калі апынуўся на кухні, не помню таксама — была там пані Ліза, ці прыйшла пазней за мяне.

Жанчыны, такія як пані Ліза, заўжды мяне бянтэжаць. Беззаганныя манеры, манікюр-педыкюр, салонная лексіка. На вуліцы мінаюць цябе абыякава, моднымі капелюшамі адасабляюцца ад шэра-звычайнага асяроддзя, здаецца, не ім свет, а яны свету робяць гонар сваёй тут прысутнасцю. Часам здаецца мне, што такія жанчыны ніколі не робяць тое агіднае, пра што расказваюць рабочыя хімічнай фабрыкі, седзячы за півам.

Праціскаючыся між сталом і маёй асобай пані Ліза моцна прытулілася да пярэдніх раёнаў майго цела, уважліва прытым углядаючыся ў мой твар. Стаяла так, ягадзіцамі падпіраючы стол і голасам хрыплым, нізкім, дабытым недзе з-пад жывата, папрасіла:

— Пане Владку, раскажыце яшчэ пра сваіх быкоў.

Яе вусны, апухлыя і вільготныя, расхінуліся і я здзівіўся: язык, які выслізнуўся з-за гэтых вуснаў быў зусім сухі, здаецца вось-вось здранцвее ён і пачне трэскацца, бы сухая кара нейкага чырвонага экзатычнага дрэва. Я сказаў некалькі слоў, вядома, многае забыў ужо раней, а многае і цяпер раптоўна ўцякло з маёй памяці. Аб'ект — здавалася, недаступны, амаль з чужое планеты — тут зусім адчувальна ўбіваецца ў маё цела! Мне стала горача-горача і калі падняў руку, каб расшпіліць кашулю, натрапіў на напружаныя, ашчаперыя ў драпежнай гатоўнасці грудзі. А пані Ліза схапіла маю нязграбную руку ў свае далоні і працягваючы далікатным пальчыкам уздоўж лініі жыцця і лініі сэрца, гаварыла бы сама да сябе:

— Такія моцныя далоні, такія мужчынскія. Мне здаецца, — тут пані Ліза раптоўна падняла маю далонь і прытуліла яе да сваёй шчакі, — мне здаецца, вы маглі б гэтымі рукамі паваліць самага вялікага быка! А для жанчын — якія яны?

Я не паспеў праверыць спраўнасць сваіх рук у адносінах да жанчын: увайшоў якраз інжынер Стручук, а пані Ліза, спалоханая, кінулася ўбок, адкрыла халадзільнік і руплівым вокам гаспадыні пачала разглядаць яго змесціва.

— Ах, вы тут, пане Владку. Ліза, — звярнуўся да жонкі інжынер Стручук, — ты забрала нам самага вясёлага кампаньёна. Давай, пане Владку, пайшлі. Без вас нам зусім нецікава.

*(працяг будзе)*

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

Іван Карэнда

## Загадка

Ці цёплы дзень,
Ці дзень халодны —
Заўсёды ходзіць злы, галодны.
А як завые ноччу ў лесе, —
Ліса ад страху ў норку лезе,
І заяц схованку шукае,
Ад звера лютага ўцякае.

# Конкурс „Беларуская песня '98"...




*„Лісічкі" з Ласінкі.* Фота Сяргея Грынявіцкага

...для школьнікаў адбыўся 24 мая г.г. у Нараўцы. У аглядзе прыняло ўдзел 15 калектываў і 10 салістаў. Камісія ў складзе: Ала Дубец (старшыня), Віктар Маланчык і Мікола Мяжэнны вылучыла пераможцаў.

**Салісты ў катэгорыі 0-III клас:**

I месца — **Марта Бабулевіч** з Бельска-Падляшскага,

II месца — **Мар'юш Лясота** з Нараўкі і **Магдалена Дудзіч** з Ласінкі,

III месца — **Ева Верамеюк** з Кляшчэль.

**Салісты ў катэгорыі IV-VIII клас:**

I месца — **Анна Сухадола** з Нараўкі,

II месца — **Паўліна Пашко** з Ласінкі,

III месца — **Анэта Яканюк** з „Пронару" ў Нарве.

Вылучэнне — **Магдалена Каліноўская** з Нараўкі.

**Дуэты IV-VIII клас:**

I месца — **Анна Сухадола** і **Анна Каральчук** з Нараўкі,

III месца — **Кацярына Кучко** і **Іаанна Герасімюк** з Махнатага.

**Спявачыя калектывы 0-VIII клас:**

I месца — **„Лісічкі"** з Ласінкі (узнагарода войта гміны Нараўка),

II месца — **„Душкі з пушкі"** з Нараўкі і **„Лясныя гномы"** з Кляшчэль,

III месца — **вакальны калектыў з Чаромхі.**

Вылучэнне — **„Журавінка II"** з Бельска-Падляшскага.

**Вакальна-інструментальныя калектывы:**

I месца — **калектыў Гміннага асяродка культуры ў Чаромсе** (узнагарода ГП БГКТ),

II месца — **„Крапіва"** з Гайнаўскага дома культуры.

**Вылучэнні і спецыяльныя ўзнагароды:**

Гран-пры — **калектыў з Гарадка** (узнагарода старшыні Гміннай рады у Нараўцы).

Фінансавыя ўзнагароды інструктарам Камісія прысвоіла: **Аліне Кос** з Ласінкі, **Яўгеніі Такаюк** з Кляшчэль, **Аліне Саевіч** і **Сасанне Падэўскай** з Нараўкі.

**Даслаў Я. Ц.**

# Чэрвень

Чэрвень. Назва месяца тлумачыцца чырвоным колерам, які набываюць некаторыя ягады менавіта ў гэтую пару.

У чэрвені сонейка ўзнімаецца ў неба вельмі высока і пасылае на зямлю шмат цяпла. Аднак гэты месяц багаты на розныя неспадзяванкі. Часам здараюцца моцныя вятры, засухі і лівні, начныя прымаразкі і нават снег.

22 чэрвеня — самы доўгі дзень і самая кароткая ноч. У народзе кажуць: сонца павярнула на зіму, а лета — на гарачыню.

Чэрвень — месяц кветак. Лугі ў гэты час нагадваюць стракаты дыван. Цвітуць рамонкі, незабудкі, смолкі, валошкі, канюшына і іншыя расліны.

На палях красуе жыта, а ў лесе вырастаюць першыя летнія грыбы-каласавікі: баравікі, падбярозавікі, падасінавікі. На лясных палянках спеюць першыя суніцы.

Паступова сціхаюць вясёлыя птушыныя спевы, выклёўваюцца маленькія птушаняты, якія ўвесь час просяць есці. Таму птушкі цэлымі днямі лятаюць у пошуках корму. Шмат шкодных насякомых знішчаюць яны ў гэтыя летнія дні. У чэрвені паяўляюцца на свет вожыкі, ласяняты і зубраняты.

# Старонка з дзённіка сяброўак, якім не шанцуе

Дзень ужо ад пачатку быў дзіўнаваты. На першы ўрок мы прыйшлі з дзесяціхвілінным спазненнем, а на „матме" настаўніца запрашала ўсіх чаргова да дошкі. Апошні званок быў для нас збаўленнем.

Непрадбачаныя здарэнні гэтага дня аднак не скончыліся. Супольна з тэатральнай групай мы мелі наведаць скансэн Дарафея Фіёніка ў Студзіводах. Ледзь мы паспелі на аўтобус! І таму, з-за недахопу часу, мы ехалі без білетаў, „зайцам". Ну, і зразумела, што схапіла нас кантралёрка. На шчасце ўсё скончылася толькі павучэннем. Мы даехалі да мэты. На месцы гасцінны гаспадар Фіёнік прывітаў нас караваем. Каб весела правесці час, малодшыя сяброўкі праспявалі нам некалькі песень. Праўда, мы часта не наракаем, аднак вельмі цяжка быць добрым слухачом, калі сядзіцца сярод спевакоў. На шчасце хутка перайшлі мы да наступнага пункта праграмы — пайшлі на поле гаспадара, несучы каравай і ікону св. Юрыя. Дзяўчаткі спявалі песні (га, га, ужо мы не знаходзіліся сярод іх). Нарэшце мы дайшлі да мэты! Дзеткі кінуліся на параскіданыя ў збожжы цукеркі (мы спакойна чакалі). Аднак калі мы спакусіліся цукеркай, грукнуліся галовамі не толькі адна з адной, але і з іншымі асобамі. Не мы адны якраз на яе мелі ахвоту! Перад абыходам поля ўсе супольна згаварылі малітву, а пасля падзяліліся караваем. І зноў няшчасце! Разам з сяброўкамі палезлі ў балота рваць бярозавыя галінкі, якімі мелі ўпрыгожыць „куст". „Куст" адзелі, але самі былі ў гразі. Хлопцы вадзілі вакол „куста" карагод, спяваючы песні, якія мелі выказваць яму хуткую жаніцьбу. Потым на галінках раскінутых па жыце качаліся дзяўчаткі, затым хлопцы, а таксама і старэйшыя сябры.

Урэшце мы адправіліся над рэчку, а па дарозе блукаліся па мокрым лузе. Усё-такі дайшлі да рэчкі цэлымі і здаровымі. Дачакаліся наступнага цікавага абраду — пускання „чаўночка" са свечкамі на ваду. Гэтая традыцыя пераходзіла раней з пакалення ў пакаленне і мы рашылі яе аднавіць. Як мы даведаліся, абрад належыць выключна дзяўчатам. Яны пускаюць драўляныя лодачкі на ваду. Куды паплывуць чаўночкі, адтуль будзе муж. Абрад гэты ў многім нагадвае нам Купалле. Сімпатычна закончылася свята — удзельнікі і госці частаваліся ласункамі. Калі мы ласаваліся пячэннем і цукеркамі, з-за воблакаў заззяла сонца. Выглядам нагадвала яно вока Бога. У дадатак сонейка радасна скакала. Яно, пэўна, цешылася і жартавала з нас. Гаспадар Дарафей Фіёнік хацеў запэўніць сабе вялікі ўраджай. Маем надзею, што яго жыта вырасце вельмі высокае.

Думаем, што ўсё-такі варта было прыйсці на Юр'е і запэцкаць травой і балотам нагавіцы.

**Жанэта Роля,**
**Эвеліна Тымашэвіч**



**Марта Бабулевіч**, вучаніца II „а" класа Пачатковай школы н-р 3 у Бельску-Падляшскім. Дзяўчынка ўжо другі раз прымала ўдзел у конкурсе „Беларуская песня". Год раней яна паспяхова заспявала „Песню пра маму". А сёлета выступіла з песняй „Сцежачка і суніца".

Марта не толькі спявае, яна займальна дэкламуе. На Цэнтральным аглядзе беларускай паэзіі і прозы Марта заняла II месца. Дзяўчынка выступіла з вершам Ніны Галіноўскай „Гэта праўда ці мана".

# Тры матылькі

*(нямецкая казка)*

Жылі-былі тры матылькі — белы, чырвоны і жоўты. Усе дні навылёт толькі і клопатаў у іх было, што гуляць ды танцаваць. Асабліва калі сонца прыгравала. Пырхаюць матылькі з кветкі на кветку, з адной на другую. Вось дзе весела! Але аднойчы пайшоў праліўны дождж. Вымаклі матылькі і пачалі шукаць, дзе б схавацца. А дождж усё лье.

Дабраліся матылькі да Белай Лілеі і кажуць:

— Прымі нас, дазволь ад даждж схавацца.

Лілея ім у адказ:

— Добра, белага матылька ад дажджу схаваю, ён на мяне падобны, а чырвоны і жоўты няхай сабе іншага месца шукаюць.

Тут белы матылёк ёй і кажа:

— Калі ты маіх брацікаў прыняць не хочаш, то і я да цябе не пайду! Лепш нам разам пад дажджом мокнуць!

І паляцелі далей.

А дождж яшчэ гусцейшы лье. Падляцелі матылькі да Чырвонага Цюльпана і кажуць:

— Прымі нас, дазволь ад дажджу схавацца, мы наскрозь прамоклі.

Цюльпан ім у адказ:

— Добра, чырвонага схаваю, ён на мяне падобны, а белы і жоўты няхай сабе іншага месца шукаюць.

Тут чырвоны матылёк яму і кажа:

— Калі ты маіх брацікаў прыняць не хочаш, то і я да цябе не пайду! Лепш нам разам пад дажджом мокнуць!

І паляцелі далей.

Дабраліся матылькі да Жоўтай Ружы і кажуць:

— Прымі нас, дазволь ад дажджу схавацца, мы наскрозь прамоклі.

Ружа ім у адказ:

— Жоўтага схаваю, ён на мяне падобны, а белы і чырвоны няхай сабе іншага месца шукаюць.

Тут жоўты матылёк ёй і кажа:

— Калі ты маіх брацікаў прыняць не хочаш, то і я да цябе не пайду! Лепш нам разам пад дажджом мокнуць!

Пачула сонца, што за хмарамі хавалася, словы матылькоў і зарадавалася: ёсць жа на свеце сапраўдная дружба! І вырашыла матылькам дапамагчы.

Прагнала сонца дождж і зноў заззяла, сад асвяціла, матылькам крыльцы высушыла. Сталі яны туды-сюды лятаць. Гуляюць, танцуюць, з кветкі на кветку пырхаюць. Толькі да Лілеі, да Цюльпана і да Ружы больш не падлятаалі. Так тыя і засохлі зусім адзінокія. Весяліліся матылькі, кружыліся да самага вечара. А як вечар надышоў, спаць леглі. Што з імі далей было, пра тое не ведаю. Толькі ведаю, што дружба — у любой бядзе апора.

# Міфы Старой Беларусі

**29. Цёця**

Цёця — багіня лета, жонка Перуна. Па мужу яе называюць Грамавіцаю. Цёця адрозніваецца ад Лялі, багіні вясны, тым, што крыху старэйшая. Цёця — гэта ўжо не маладзенькая, зграбная, тоненькая дзяўчына, а мажная, пажылая, поўная жанчына са спелымі каласамі на галаве і з пладамі ў руках. Цёця сходзіць на зямлю, каб упрыгожыць яе зеленню і кветкамі.

# 26 мая — Дзень мамы

*„Карысланы" — Магда Саковіч, Аня Яканюк, Яраслаў Хіліманюк і Міхась Сцепанюк.*

*Цеплынёй атуліць*
*Сонейка зямлю*
*Мілая матуля*
*Я цябе люблю*

Так спявалі сваім матулькам дзеткі з беларускага прадшколля ў Беластоку.

Спявалі, дэкламавалі вершы, паказалі п'есу „Карыслан" і танцавалі... Нават са сваімі мамамі. Гэта быў чароўны сюрпрыз. І смеху было колькі! Хай кожны з вас уявіць сабе, што танцуе са сваёй мамай *польку-бульбу*.

Матулі атрымалі каляровыя віншавальныя лісты і кветкі.

За святочным, салодкім сталом я пачула файнае пытанне:

— Мама, а калі будзе дзень дачушкі?

**Зорка**

*Фота Г. Кандрацюк*

# Дзякуй Табе, „Зорка"!

Пазнаёміўся я з „Зоркай" амаль з першых дзён яе ўзнікнення, бо ў красавіку 1959 года. Прываніў мяне конкурс. Трэба было намаляваць самую цікавую сцэнку са свайго жыцця. І я паслаў такі рысунак. Гэта была перастрэлка савецкіх партызан з немцамі ў нашай хаце ў час вайны.

З хваляваннем чакаў я выніку. Незадоўга атрымаў кніжную ўзнагароду — казкі „Чароўная чаша". Радасці не было канца. Пасля паслаў у рэдакцыю кароценькую інфармацыю пра сваю вёску. Пісаў на рускай мове, бо мне не прыйшлося вучыцца сваёй роднай у школе пасля вайны. Хачу зараз адзначыць, што дзякуючы „Зорцы" і гэтаму конкурсу я пазнаёміўся з „Нівай". Вывучыў родную мову. Стаў карэспандэнтам і верным яе прыяцелем. Усе гады неразлучна спадарожнічаю з родным часопісам.

Зараз я ўжо дзядок. Незадоўга Міхасёк, мой унук значыцца, пойдзе ў школу. І спадзяюся, што ён падтрымае шматгадовую традыцыю супрацоўніцтва з „Зоркай" свайго дзядулі.

Дай Бог, каб гэтага яшчэ я дачакаўся.

**Уладзімір Сідарук**

# Польска-беларуская крыжаванка № 23

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы (з наклееным кантрольным талонам) на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Крыжаванка Монікі Богунь**

Разгадайце лозунг крыжаванкі і дашліце яго разам з адказамі на польска-беларускую крыжаванку.

Вада ў ёй

Бакавая сценка лодкі, карабля

Інакш труна

Збіранне старых манет і медалёў

Плавае ў вадзе

Першая асоба

Сталіца Расіі

Родная або замежная

Пасля зімы

Тата і...

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | Takt | | Smutek / Góra | | Ogrom / Pieprz |
| Nostalgia | | | | | As |
| | | | | | |
| Samowar / Strzelec | | Rosa | | | |
| | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 19:**

Гук, замова, Саколка, краскі, пас, каты.

Ласка, Марс, вока, воск, галка, кіт, краты.

Узнагароды — **запісныя кніжкі** — выйгралі: **Аня Касцючук**, **Павал Ільяшук** з Кленік, **Дарота Барташэвіч** з Махнатага, **Дарота Дарашкевіч** з Нарвы, **Кася Бужынская** з Бельска-Падляшскага. **Набор ліcтoў** (papeterie): **Аня Каліноўская** з Махнатага і **Анжэліна Сельвясюк** з Бельска-Падляшскага.

Віншуем!

Узнагароды можна ўзяць у „Ніве" або чакаць іх у сваёй школе.

Талон „Зоркі" № 23
07.06.1998

# Шалкевіч на Беластоцкім радыё



Вядомы гродзенскі бард Віктар Шалкевіч выступіў у нядзелю 24 мая з гадзінным канцэртам у прамым эфіры Беластоцкага радыё. Канцэрт арганізавалі Беларускі саюз у Польшчы і Цэнтр грамадзянскай адукацыі Польшча-Беларусь.

— Хочам знаёміць жыхароў Беласточчыны з найлепшымі з'явамі ў беларускай культуры, — сказаў Яўген Вапа, старшыня Беларускага саюза і праграмны дырэктар Цэнтра. — Такія канцэрты на антэне Беластоцкага радыё павінны спрыяць пабудове нармальных адносін між палякамі і беларусамі.

Канцэрт стаў нагодай для прамоцыі новага альбома Віктара Шалкевіча „Балады і рамансы", загаловак якога ўпісваецца ў святкаванні юбілейнага года Міцкевіча, але і добра паказвае характар творчасці апошняга грамадзяніна Вялікага княства Літоўскага, пеюна правінцыі і малых беларускіх мястэчак, пільнага назіральніка, з'едлівага сатырыка і заадно лірычнага рамантыка. У альбом увайшлі некаторыя старыя гіты, як: „Ёлачка-блюз", „Дзякуй, вялікае дзякуй", „Кароткая гісторыя Беларусі" ці „Балада пра пастуха Аўласа", а таксама новыя песні, якія напэўна стануць шырэй вядомымі, як хаця б „Балада Усходняй сцяны" ці „Балада пра таварыша Сапегу".

Шалкевіч набывае вядомасць не толькі ў Беларусі і на блізкай яму Беласточчыне. У доказ таго праспяваў ён свой „Гарадоцкі раманс" па-чэшску. Напрыканцы мая з'ездзіў ён у Нямеччыну, дык можам спадзявацца, што неўзабаве пачуем нешта ягонае і на мове Гётэ. Віктару Шалкевічу не цяжка будзе гэта праспяваць, паколькі ў сваім рэпертуары мае некалькі песень на аснаваннай на нямецкіх дыялектах мове ідыш. Як хаця б „Самавар", ад якое заходзіліся смехам не толькі прысутныя ў студыі „Рэмбрант" Беластоцкага радыё, але і злятаді з крэсел бельскія ліцэісты. Бо Віктар Шалкевіч 25 мая выступіў перад вучнямі Бельскага і Гайнаўскага беларускіх ліцэяў. Усюды, як і пры запісе касеты, дапамагалі яму гітарыст Віктар Грышук і клавішнік, піяніст ды гарманіст Анатоль Кандыба.

Яўген Вапа абяцаў, што канцэрт Віктара Шалкевіча гэта толькі першы беларускі канцэрт у прамым эфіры на Беластоцкім радыё, але напэўна не апошні. Хто будзе наступны, пакуль невядома. Спачатку трэба знайсці на яго грошы.

**М. В.**

*Фота Аліны Ваўранюк*

# Маладыя мастакі ў БДК



*Адам Гаўрылюк.*

Пабываючы ў Бельскім доме культуры можна ўбачыць працы вучняў падставовых і сярэдніх школ, якія займаюцца там у мастацкіх гуртках.

— Гуртки зацікаўленняў вяду ад пачатку працы ў Доме культуры, — гаворыць інструктар па справах мастацтва Марыя Бабулевіч, якая працуе на гэтай пасадзе ўжо 11 гадоў. — У сваіх працах дзеці і моладзь могуць карыстацца рознай тэхнікай. Ёсць працы выкананыя каляровымі алоўкамі, крэйдай, акварэльнай фарбай, ёсць пастэльныя малюнкі, лінагравюра, ёсць працы зробленыя пры дапамозе прамакатак, пер'я і ваты.

Вучні займаюцца 2 гадзіны ў тыдзень у дзвюх узроставых групах: 7-10-гадовыя дзеці ў гуртку „Каларыт", а моладзь (11-21 гадоў) — у гуртку „Каляж". Зараз пастаянная экспазіцыя прац гэтых двух гурткоў. Тэмы вельмі разнародныя: нацюрморт, пейзаж, любімыя постаці, блізкія асобы, здарэнні ў прыродзе і асабістым жыцці.

— Вясною мы арганізавалі конкурс, у якім прымалі ўдзел вучні ўсіх падставовых школ Бельска з I-III класаў. Вылучылі 21 асобу, сярод якіх многа было вучняў са школы н-р 3. Іх працы таксама ў Доме культуры. На сваіх малюнках паказалі вітанне вясны, наваколныя пейзажы, прыроду вакол Бельска, — расказвае Марыя Бабулевіч.

Працы вучняў, якія займаюцца ў БДК высылаліся на розныя конкурсы, найчасцей на б'енале мастацкай творчасці дзяцей і моладзі ў Вроцлаве і Торуні.

— Многа здольных вучняў, якіх працы вылучаюцца на розных конкурсах, — заяўляе мая субяседніца. — Сярод наймалодшых Наталля Ігнацюк і Марта Бабулевіч са школы н-р 3. Вельмі здольны вучань VII класа Адам Гаўрылюк, таксама з „тройкі". У галоўным, займаецца ён рысункам і жывапісам. Вылучаюцца Анэта Леанкевіч, Марыя Данілюк, Адам Шымчук і Аня Сідарук. На X Міжнародным б'енале графікі дзяцей і моладзі ў Торуні вылучэнне атрымала праца Галіны Сідэвіч, вучаніцы I класа Бельскага белліцэя. Гэтая здольная дзяўчына прыходзіць да нас на заняткі ўжо ад III класа пачатковай школы.

— Пастэль і лінагравюра, — гэта мае ўлюбёныя тэхнікі, — гаворыць Галіна. — Найлепш адчуваю сябе, калі маю працы тычацца пейзажа і нацюрморта. Мастацтва — гэта маё і зацікаўленне, і адпачынак. У будучыні стане яно можа чымсьці больш.

**Аляксей Мароз**

*Фота аўтара*

# Першы ў сезоне фэст

Згодна традыцыі, першы ў сезоне беларускі фальклорны фэст адбыўся ў Нараўцы — у нядзелю 24 мая, у амфітэатры. Паколькі нашай традыцыяй стала таксама пэўная непунктуальнасць, занадта я не спяшаў быць пунктуальным у выніку чаго не бачыў, якія афіцыйныя асобы адкрывалі фэст. Затое бачыў, што прэзідэнта Рэчы Паспалітай прадстаўляў Анатоль Вакулюк, парламент нашай дзяржавы — Сяргей Плева і Ян Сычэўскі, блізкае Беласточчыне замежжа — консул РБ Мікалай Крэчка і віцэ-консул Павел Латушка, а мясцовыя эліты — войт Мікалай Павільч і старшыня Гмінная рады Яўген Валкавыцкі.

Артыстычную частку вяла нястомная ў такіх сітуацыях Валянціна Ласкевіч, а першымі артыстамі былі школьнікі — лаўрэаты толькі што закончанага ў Нараўцы агляду дзіцячай песні. Выступілі вучні са школ у Нараўцы, Ласінцы, Гарадку і Чаромсе. Выступленні дзяцей крыху нагадвалі выступленні адпаведных ім „дарослых" калектываў: відаць, у паасобных мясцовасцях склалася характэрная ім культурная праца. Асабліва відаць гэта было на прыкладзе Чаромхі: дзеці, так як і моладзь з „Чарамшыны", былі не толькі вакалістамі, але і кожны член калектыву іграў на нейкім інструменце. Праўда: не было тут ні саксафонаў, ні трамбонаў, але было відаць старанне мастацкага кіраўніцтва пра ўсебаковасць.

Пасля дзяцей выступілі дарослыя: былі калектывы з дзвюх гмінаў: мясцовай і Заблудаўскай. Тут таксама праявілася пэўная рэгіянальная адрозненасць: калектывы з Ляўкова і Нараўкі складаліся са спяваючых жанчын, мужчынскага акампаніятара і яшчэ аднаго мужчыны; відаць той апошні патрэбны дзеля таго, каб на яго фоне яшчэ больш выдзяляліся жаночыя краса і пеўчае мастацтва. Праўда, „Хлопцы-рыбалоўцы" прывезлі ў сваім саставе жаночую разынку, але яна з абы-кім не спявала — толькі са сваім кіраўніком! А ўжо жанчыны з козлікаўскай „Рэчанькі" — полавыя фундаменталісткі; нават акампаніятарам была жанчына!.. А была гэта Ала Дубец, якая не толькі падыгрывала сваёй маме і яе сяброўкам, але і яшчэ сама заспявала. А згаданая мама — Люба Гаўрылюк — расказала яшчэ і сімпатычны анекдот.

Фэставыя выступленні завяршыў беластоцкі калектыў „Капры". Маладыя мужчыны праспявалі тры дыскапольныя песні, пад музыку якіх жанчыны з Козлікаў падхапілі пару карапузаў з першых радкоў публікі, а апошнія *краснаюдкі* і самі беглі патанцаваць у такой выдатнай кампаніі. Артысты з „Капры" чувалі час ад часу беларускую мову, але пэўна на ёй не гаварылі, хіба што каго дражнілі, аднак спеў іх быў фанетычна карэктны, а канферанс у іх выкананні быў напэўна не горшы, *цім* „паводзіны" вядомага ў нас дыктара Праховіча.

Побач амфітэатра былі „kolorowe jarmarki", „baloniki na druciku", „cukrowa wata", „Dojlidy" і г.д. А рахункавод беластоцкіх беларускіх інстытутаў, спадарыня Паўлючук, быццам прадавец марозіва, разносіла сярод публікі фанаграфічныя выдавецтвы БГКТ. І хаця публікі, нягледзячы на халоднае, неспрыяльнае надвор'е, сабралася шмат, зацікаўленне фэста-рынычнымі прапановамі было невялікае. Можа таму, што выступленні самадзейнікаў на сцэне — рэдкае свята, пра што сведчыла і прысутнасць да канца звычайных гледачоў. Ды і тыя звычайныя гледачы не надта грашавітыя цяпер. А афіцыёз, не чакаючы заканчэння фэсту, пакінуў гмінны электарат і цішком падаўся на гайнаўскі Фестываль царкоўнай музыкі паказацца электарату павятоваму.

**Аляксандр Вярбіцкі**

# Свята ў Агароднічках




Фота Сяргея Грынявіцкага

Калектыў „Журавінкі" з Агароднічак 23 мая г.г. святкаваў сваё дваццацігоддзе. Шэсць спявачак атрымалі ад міністра культуры адзнаку „Заслужаны дзеяч культуры". Гэта: Ніна Аўгустыновіч, Барбара Лісевіч, Лідзія Матэйчук, Ніна Матэйчук, Ніна Панкевіч і Анна Сушко.

Перадаючы ўзнагароды намеснік дырэктара Ваяводскага асяродка анімацыі культуры ў Беластоку Барбара Пахольская падкрэсліла, што „Журавінкі" моцна трымаюцца роднай культуры і як мала хто ўмеюць выказаць радасць жыцця, звычайнага дня, працы. Не шкадавала цёплых слоў у адрас юбілярак і вядучая канцэрт сакратар Галоўнага праўлення БГКТ Валянціна Ласкевіч. Калектыў з Агароднічак рэгулярна ўдзельнічае ў ладжаных гэтай арганізацыяй фестывалях беларускай песні ды народных фэстах па ўсёй Беласточчыне.

Юбілейны канцэрт, з удзелам хору Беларускага таварыства з Беластока, праходзіў у Вясковым доме культуры ў Агароднічках. Прысутнічалі на ім, між іншым, старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства і адначасна пасол Сейма Ян Сычэўскі ды епіскап Супрасльскі Якуб, які дзякаваў жанчынам з калектыву за тое, што не толькі зберагаюць свецкую традыцыю, але і праслаўляюць Бога ў царкоўным хоры ў Супраслі.

Кіраўнік калектыву Ніна Аўгустыновіч спявае ў ім ад самага пачатку. Расказвала яна, што некаторыя песні паходзяць яшчэ ад мамаў і бабуль, а некаторыя — складаюць самі. Так на беларускай, як і польскай мовах.

— Цяжка нам без акампаніятара, — казала пані Ніна, — але цешыць мяне, што ў калектыў прыйшлі маладзейшыя за мяне. Гэта абнадзейвае на будучыню. **(ак)**

# „Наша ніва” і ўсходняя Беласточчына

**Частка 17**

Вельмі багатым весткамі з усходняй Беласточчыны аказаўся 18 нумар „Нашай нівы” за 1908 год. У рубрыцы „З Беларусі і Літвы” змясцілі тут свае весткі аўтары, якія выступілі пад псеўданімамі Міхалка-Запалка, Бусел, Тутэйшы і Халімон з-пад Пушчы.

У першай карэспандэнцыі Міхалка-Запалка са здавальненнем інфармаваў аб адкрыцці новых школ у Бельскім павеце. „У нашым павеце адкрываецца 27 новых школ для народу. Таксама шмат аднакласных народных школак пераробляюцца на двухкласныя з рамесленым аддзяленнем. Вось у Кленіках мужыкі пастанавілі прыгавор, каб зрабіць гэтакую перамену ў сваёй школе і асыгнавалі грошы на хату для яе і на ўтрыманне стоража. Вельмі стараюцца аб школе і мужыкі вёскі Градочна: хаця ў іх зямля скрозь надта дрэнная — усё пясок, градочняне пастанавілі аддаць пад школу найлепшы кавалак зямлі, каб толькі даць дзеткам сваім навуку. Тое ж робяць вёскі Іванова, Камень і другія. А дагэтуль у 26 вёсках Кленікскай воласці, у каторай лічыцца па астатней перапісі каля 8 з паловай тысяч народу, было толькі 10 школ (у тым ёсць народныя, прыхадскія, школы граматы); дый праз гэта з кожнай сотні дзяцей не менш як 15 аставаліся нявучанымі. Найцяжэй даецца навука дзяўчынкам: у вёсцы Кленіках, напрыклад, гдзе жыве 1176 душ, ёсць маленькая школка жэнская на 40 дзяўчынятак, дык многа-многа дзяцей не могуць навучыцца граматы.

У вёсках, дзе зусім ніякіх школ няма, на сотню дзяцей прыходзіцца ўсяго 20 такіх шчаслівых, што ходзяць у школу, а 80 зусім не вучацца. Дык бацькі іх павінны моцна старацца аб тое, каб кожнае дзіцятка знайшло месца ў школе, каб навука была агульная — для ўсіх чыста; і калі нашы сталыя мужыкі ўжо не спадзяваюцца знайсці сабе лепшае жыццё, то няхай пацешацца тым, што ў новых школах дзеткі навучацца шукаць новага жыцця і новага шчасця, будуць жыць па-людску... Паглядзіце людзі хаця на кітайцаў, як яны рвуцца к свету: то-ж у Кітаю дзевяць год таму назад не было саўсім людзей з вышэйшай навукай. У 1899 годзе пачалі вучыцца ў японскіх універсітэтах 4 кітайцы; у 1903 годзе вучылася тамака ўжо 2420 студэнтаў, у 1904 годзе — 8020 чалавек, а ў 1906 годзе — 13 тысяч кітайскіх студэнтаў. Варта і нам браць з іх прыклад!” Такім прыгожым і смелым зваротам закончыў свой артыкул карэспандэнт з усходняй Беласточчыны.

Зусім іншай па свайму духу была другая карэспандэнцыя, падпісаная псеўданімам Бусел. Яе аўтар інфармаваў аб тым, што валасныя сходы пастанавілі паменшыць заробкі настаўнікам у Арлянскай і Дубіцкай народных школах. Аўтар з жалем піша: „Адабралі ад вучыцелёў 52 рублі і яны дастаюць за вычэтамі па 192 рублі 52 капеек у год. За гэтыя грошы цяжка прахарчавацца; аб тым, каб выпісаць газэту ці кнігу — нама чаго і думаць”.

З наступнай кароткай інфармацыі, падпісанай Тутэйшым, даведваемся, што сяляне ў той самай Орлі, у якой абрэзалі сціплыя заробкі настаўнікам, не пашкадавалі грошай на бібліятэку. Цяжка зразумець такую непаслядоўнасць.

„У Орлі і Вітаве Гродзенскай губерні Бельскага павета Новаберазоўскай воласці мужыкі зрабілі прыгаворы, каб адкрыць бібліятэкі; даюць 50 рублёў і кватэру. Памажы Божэ!”

Да несумненна цікавых належыць таксама карэспандэнцыя славутага Халімона з-пад Пушчы, які напісаў:

„З Белавежскай пушчы, Гродзенскай губерні. Яшчэ ў прошлым годзе напала на Пушчу матыль — так званая „манашка” і, аб'ядаючы хвоі, папсавала каля 1200 дзесяцін лесу. Гэтым летам матыль тая распаўзлася далей і робіць надта многа шкоды. Удзельнае ўпраўленне абяцала 25000 рублёў нагроды таму, хто знойдзе якую раду, каб знішчыць зусім „манашку”, а пакуль што на вайну з ёю страціла ўжо 100 тысяч рублёў. Ваююць гэтак: наймаюць мужыкоў (па адным-паўтара рубля ў дзень) капаць ямы і равы і раскладаць у іх у ночы агонь, на каторы матыль ляціць і паліцца. А яшчэ аб'явілі, што будуць даваць па капейцы за кожнага матыля, калі хто зловіць, дык мужыкі ночкаю стаяць у лесе ды ловяць у паветры капейкі. Спрытнейшыя могуць злавіць 150-200 капеек праз ноч”.

**Алесь Барскі**

**Марыся Пень не ведае, што робіцца цяпер у яе доме ў Тафілаўцах. Уцякла адтуль — ад пакуты, ад нядобрага кахання бездаказнага чалавека, ад болю. Цяпер яе домам — дом апекі.**

# Дом пад Трыма дубамі

Час ад часу хацелася б ёй паехаць дахаты, пайсці на могілкі — наведаць брата, бацькоў, знаёмых. Яна з дому апекі ў Харошчы можа, як адзіная з яго жыхароў, выходзіць у горад адна. У Доме пад Трыма дубамі, сучасным, прыгожым, камфортным нават — 300 жыхароў, у тым 40 жанчын. 60 праваслаўных, зазначае Марыся, якіх наведвае бацюшка Андрэй. Марыся любіць паразмаўляць пра рэлігію, пра Біблію, з бацюшкам маюць яшчэ адну тэму — „Ніву”. І іконы. Марыся піша іконы, малое і іншае.

— Адкуль Марыся ў нас, я ў захапленні ад яе поспехаў у мастацтве, — кажа інструктар Дарота Каліноўская, былая вучаніца Яўгена Міерановіча. — Вось яе першая карціна, — паказвае як доказ яшчэ нясталасці ейнага таленту. Але я бачу іншае: на мой сціплы погляд, якраз ён найбольш блізкі праўды, найлепш паказвае Марысіну душу; у простых лініях і скупасці колераў, абрысаванні фігур: самотны чалавек уздымаецца пад гару, самотны дом. А тыя карціны, з якіх шмат атрымалі ў падарунку ад Дому апекі высокасаноўныя духоўныя і палітычная госці, маюць выразны след ўмяшальніцтва і парад інструктараў. Намаляваны прыгожа. Вісяць такія ў майстэрні, прадаюцца на аўкцыёнах.

У Марысі ў пакоі папкі з эскізамі, малюнкамі тушшу, плакатоўкамі, акварэллю. Успаміны з дзяцінства: конь забіў суседку. Будынкі, дарогі. Старая жанчына, якая выхавала дзесяцёра дзяцей, збірае бульбу. Пра іх усіх Марыся памятае. Іконы. Улюбёная — Марыя з Дзіцяткам, святыя. Сярод яе сяброў, жыхароў Дома пад Трыма дубамі — Войтэк Кляпацкі, пра якога інстурктары кажуць, што „мае мануальныя здольнасці”, у сапраўднасці геніяльны мастак.

— Маем тут майстэрні малявання, ткацтва, разьбы па дрэве і металу, — паказвае інструктар пан Анджэй. — Найбольш зацікаўленых прыходзіць паміж 10 і 12 гадзінамі. Хто працуе, хто толькі прыглядаецца. Вось рэзьбы, некаторыя „прымітыўныя”, іншыя больш кунштоўныя. Можна набыць іх на аўкцыёнах пад лозунгам „Столькі дабра ў чалавеку, колькі ён можа даць іншаму”. Можа, няма ў нас „стопрацэнтных” талентаў, хіба што толькі Войтэк, які яшчэ і спявае прыгожа, і іграе на гармоніку. Але ёсць зацікаўленне, нават замілаванне. Яны адчуваюць сябе патрэбнымі, хочуць працаваць, выражаць сябе. Мужчын можна сустрэць найчасцей пры разьбе, жанчыны больш спяваюць, вышываюць, ткуць.

Але вось у ткацкай майстэрні за станком сядзіць пан Віця Крысінскі з-пад Браньска. Ён тут штодзённа. Спецыяліст ён, ткаў дома дываны, капы. Пасля вайны нават студыі скончыў. А лёс, бачыце, прывёў яго сюды. Марыся водзіць мяне па майстэрнях, паказвае хронікі, знаёміць з іншымі інструктарамі... Тыя каляровыя, дасціпныя хронікі — дакументацыя кожнага дня ў Доме. Вогнішчы, экскурсіі, праца ў агародзе. Выцечкі ў навасельскі лес па грыбы і ягады. Візіты гасцей з іншых дамоў апекі. Цырк, выступленне ілюзініста. Урачыстыя імяніны і дні нараджэння жыхароў Дома. „Учасы”. „Прыбіранне свету”. Набыванне кандыцыі на спартыўнай пляцоўцы. Дзень закаханых, Дзен маці, Дзень бацькі... Купалле! — сапраўды, пускалі вяночкі на ваду, нават ёсць цяпер пары! Шашкі, вышыўка, чытанне... Мастацкі пленэр „Харошча '95”. Спартыўны турнір у Ялоўцы...

Далятае нашых вушэй музыка. Жывецца тут, як можна, каб годна дажыць не ў адзіноце. Марыся запісала таксама сваю гісторыю гэтага дома — у вершах. Па-польску і па-беларуску. У „Ніве” друкаваліся, у зборніку конкурсу беларускай паэзіі і прозы. Героі — жыхары, лекары, медсёстры, апякункі, кухаркі. Успамінае таксама людзей з Тафілаўцаў і блуканне па прасторах жыцця сваякоў і знаёмых. Падзеі і дробныя, здавалася б, здарэнні. Пукатыя сшыткі ў Марысі з вершамі, і яшчэ ёсць сшыткі з залатымі думкамі з прачытаных кніжак.

— Усё ж, у нашай бібліятэцы няма добрых кніжак. Такіх, якія прачытаеш, і возмеш з іх мудрасць. Запішаш на памяць сказ такі, што запаў табе ў сэрца, які будзе стымулам для роздумаў. Я выходжу ў горад, запісалася была ў бібліятэку. Там больш выбар, бібліятэкарка, ведаючы мае зацікаўленні, сама падрыхтоўвала мне займальныя і разумныя кнігі. Але аднойчы зайшлі мы туды з медсястрой. Бібліятэкарка запыталася ў яе, адкуль яна мяне ведае. Тая і сказала, што я жыву ў Доме апекі. Бібліятэкарка спахапілася, і кажа мне: „Вы мне сюды больш не прыходзьце, я вам кніжак не буду даваць!” Відна, узяла мяне за нейкую неадказную хворую асобу, якой, відаць, нельга кнігу даць у рукі, бо, пэўна, не ведае, што з кніжкай рабіць трэба!.. Харошча ёй асацыюецца толькі з псіхіятрычнай бальніцай.

Марыся выходзіць у краму. Сяброўкі просяць яе купіць штосьці. Але яна цяпер паведамляе медсястры ці апякунцы, што жыхары хочуць каб ім купіць. Надта яны ж любяць салодкае! Застаецца ў кожнага ад аплаты за пабыўку ў доме апекі 50-100 злотых. Мужчын тут намнога больш — усё ж, калі жанчына астаецца адна, нейк спраўляецца з жыццём. А колькі так асалоды на старасць ці адзіноту...

Марыся не забывае мінулага жыцця. Чытае, піша, дыскутуе. Перапісвалася з карэспандэнтамі „Нівы”, найбольш з Барыславам Рудкоўскім, Міколаем Панфілюком. Моліцца. Наведаў яе нават былы каханы з кветкамі. Той самы, які над ёй стаяў з сякерай, ганіў з касою, выбіваў ёй вокны, выносіў усё з хаты на гарэлку. Які Марысі Пень здароўе змарнаваў, зруйнаваў сямейнае жыццё. Чытае Марыся Біблію, разважае навукі Хрыста. Даравацъ Ён навучаў, любіць нават ворагаў.

**Міра Лукша**

# Забытая яўрэйская магіла

У нашым наваколлі многа адзінокіх магіл, у якіх пакояцца невядомыя па прозвішчы ахвяры ваеннага ліхалецця. Раней пісаў я пра забытыя магілы савецкіх і нямецкіх салдат перыяду II сусветнай вайны. Сённяя хачу прыгадаць яўрэйскую магілку, якая знаходзіцца ў лесе каля вёскі Бялкі Нарваўскай гміны.

Гэта была яўрэйская сям'я — муж з жонкаю і, праўдападобна, дзеці. Злавілі іх гітлераўцы ў вёсцы Патока Міхалоўскай гміны, прывялі ў лес і расстралялі. Хто іх пахаваў, не ведаю. Пасля вайны магілай апекаваліся вучні Пачатковай школы ў Патоцы, якой кіраўніком быў шматгадовы карэспандэнт „Нівы” Мікола Краўчук. Зараз у Патоцы школы няма і яўрэйскай магілай няма каму апекавацца. Калі б нехта з Беластока (ці ёсць тут яўрэйская гміна?) ці Варшавы пацікавіўся гэтай справай, я паказаў бы месца пахавання. Месца магілы яшчэ можна вызначыць.

**Мікалай Лук'янюк**

# Манастыр св. Ануфрыя ў Яблачыне

У першых днях мая альштынскае турбюро „Орбіс” наладзіла сваім працаўнікам экскурсію ў Яблачына і Варшаву. Аглездзеўшы славутасці сталіцы, адправіліся мы на ўсход па маршруце Седльцы—Белая-Падляшская—Вішніцы—Яблачына. Сярод маляўнічых лугоў даліны Буга стаіць Яблачынскі манастыр св. Ануфрыя. У гэтым годзе мінае пяцьсот гадоў з таго часу, калі вада Буга выкінула на бераг ікону св. Ануфрыя. Таму спярша пабудавана тут была царква, а пасля заснаваны і манастыр у гонар святога, які жыў у Егіпце ў чацвёртым стагоддзі. Калі ў 1596 годзе была ўстаноўлена Брэсцкая унія, Яблачынскі манастыр не падпарадкаваўся ёй і астаўся верным праваслаўю.

Яблачынскі манастыр складаецца з некалькіх аб'ектаў, большасць якіх збудавана была ў дзевятнаццатым стагоддзі, а найбольш каштоўным з іх з'яўляецца царква пастаўленая на плане грэцкага крыжа. Вакол манастыра расце больш сарака старых дубоў, з якіх найбольшы мае 780 сантыметраў акружнасці. Ад чатырох гадоў пры манастыры існуе Царкоўны музей з іконамі, аблачэннямі, кнігамі і дакументамі, якія адлюстроўваюць гісторыю манастыра. Найбольшае свята тут у дзень св. Ануфрыя — 25 чэрвеня, на якое з'язджаюцца тысячы вернікаў і сотні святароў. У гэтым годзе свята будзе мець асаблівы ўрачысты, юбілейны характар.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Дастаў пыласос!!!

### Успаміны з мінулай эпохі

Сапсаваўся мой пыласос-ветэран. Засумаваў-замаркоціўся я. Сэрцам пачуў — быць клопатам. І не памыліўся. А я іх, клопатаў гэтых, нават тых найдрабнейшых, страшэнна не люблю. А яны мяне наадварот — упадабалі і не адступаюць ніяк. А ўжо проста панічна я ненавіджу тых спраў, якія „залатвяць” было трэба. І не таму, што шкадаваў — як кажуць — „даць у лапу” ці грунтоўна замачыць афармленую справу, а таму, што проста баяўся пакрыўдзіць добрага чалавека такой прапановай. Свята верыў, і веру надалей, што ёсць яшчэ ў нас сумленныя і прынцыповыя людзі. Такая ўжо далікатная ў мяне натура.

Погляды маёй жонкі наконт маёй натуры, з якімі яна зрэшты і не крыецца, крышку іншыя. Яна лічыць, што з'яўляюся я класічным прыкладам наіўняка і няўдачніка ў адной асобе. У маім жыцці — на яе думку — удалася толькі адна-аднюсенькая, але капітальная справа. Яна і дазваляе мне ўтрымоўвацца дасюль на даволі высокім жыццёвым узроўні, на які, бясспрэчна, у ніякім выпадку я не заслугоўваю. А менавіта: трапіў на вельмі добрую, вельмі разумную, вельмі гаспадарную, вельмі, вельмі, вельмі... жонку, за што і павінен за ўсё сваё жыццё рэгулярна ставіць у адпаведным месцы тоўстыя свечкі ўдзячнасці. Атрымаў гэтую бясцэнную каштоўнасць — зноў жа на яе думку — не зусім чыстым спосабам, бо свядома і хітра падаваў надзею быць лепшым, спрытнейшым мужам, якім, на жаль, не стаў і не стану. І, здаецца, мае рацыю... А якіх жа хлопцаў яна мела, Божа ж мой! Дзе яе толькі вочы былі...

Вяртаймася аднак да пыласоса. Далікатна паклаўшы ў торбу, панёс я яго ў рамонтную майстэрню. Там агледзеў яго майстар і — як мне здалося — з іроніяй сказаў:

— Лепей аддайце гэтую старэчу ў музей, і разгляньцеся за новым, бо ўжо не аплачваецца рамантаваць яго. Зрэшты, не маем запасных частак да такіх пыласосаў, — і энергічным рухам адсунуў разабраны на дэталі пыласос у маім напрамку.

— От табе і маеш, прагноз наконт клопатаў памаленьку збываецца, — падумаў я. — Такі паскудны сон, які прысніўся мне, дарма не бывае.

Збіраючы ў торбу часткі пыласоса, адчуваў я нейкі сорам, віну і крыўду і віну да сябе. І каб хаця чымсьці заняць гэтую няёмкую хвіліну, нясмела запытаўся:

— То можа падкажаце, у якім напрамку маю разглядацца, бо, наколькі мне вядома, пыласосаў у вольным продажу няма?

Пан майстар з яшчэ большай іроніяй глянуў на мяне і адчаканіў:

— А то ўжо ваша справа.

## Успаміны з мінулай эпохі

**Усё ж такі кароткае чалавечае жыццё, нават калі і ўдасца яму дажыць да сівой старасці. І толькі ў дзяцінстве, калі так хочацца хутчэй быць большым, дужэйшым, старэйшым, час яшчэ павольна валачэцца. А ўжо потым штораз хутчэй і хутчэй ён спяшаецца і проста апераджае нас. Чым старэйшымі становімся, тым больш балюча заўважаем уцёкі часу.**

**Маючы свядомасць праміпання часу, кожны чалавек, думаю, штораз глыбей пачынае задумвацца над сэнсам жыцця ўвогуле і свайго ўласнага ў прыватнасці. У бяссонныя ночы аддаецца ўспамінам аб мінулым, аналізуе яго, задаючы сабе пытанне, ці пражыў сваё жыццё прыстойна, аптымальна, ці, можа, змарнаваў яго.**

**Часта над гэтымі пытаннямі задумваюся і я, крок за крокам аналізую свой жыццёвы шлях, сваю даволі складаную мінуўшчыну. Лёс наш не заўсёды залежаў толькі ад нас саміх, але і ад розных абставін. У тым ліку і палітычных, праз суровыя выпрабаванні якіх грунтоўна прайшло маё пакаленне.**

**З перспектывы мінулага часу можна ўжо з поўнай адказнасцю сказаць, што ў нашым і маім жыцці было многа як добрага, разумнага, радаснага, сур'ёзнага, так і нямала нядобрага, сумнага, смешнага і нават дурнаватага. Вось некаторымі маімі адсвежанымі ўспамінамі з мінулай эпохі і хачу падзяліцца з чытачамі.**

**Васіль Сакоўскі**

Дамоў я вяртаўся прыбіты горам, а ноша проста парыла мяне. Па галаве кружылі думкі адна чарнейшая ад другой: „Што цяпепр скажу я жонцы? Як гляну ў вочы цешчы? (то ж шлюбны падарунак яе нам). Як расстанемся з пыласосам, які служыў нам верна столькі гадоў? І як будзем змагацца з брудам цяпер?..”

Вестка гэтая і жонку моцна засмуціла. Яна таксама не магла пагадзіцца з думкай, што прыйшоў канец нашаму пыласоам. Закончыла аднак свае сумныя разважанні аптымістычным сцвярджэннем:

— Калі сапраўды наш пыласос не надаецца да рамонту ўжо, няхай даюць пісьмовае пасведчанне. Такі дакумент дае нам права купіць новы пыласос. Далі табе такое пасведчанне?

— Не, не далі.

— Бо ты, напэўна, не прасіў яго?

— Праўду кажучы, не прасіў. Я ж пра пасведчанні нічога не ведаю.

— А скажы, пра што ты ў жыцці ведаеш?! Усё на маёй няшчаснай галаве... Бяжы зараз жа ў майстэрню і без пасведчання дамоў не смей вярнуцца!!!

І я пабег. На маё здзіўленне, пыласосны „шпец” на гэты раз вёў сябе карэктна, культурна:

— Хоча пан мець пасведчанне, — сказаў, — проша...

Пасведчанне выглядала цудоўна: вялікі фармат, добрая папера, вялізныя разныя літары, размашысты міністэрскі подпіс і салідная пячатка ў цэнтры.

— О-го-го! — з няскрытай зайздрасцю падумаў я. — Гэта і ёсць ваша сапраўднае прызванне, хлопчыкі. Нахрэн вам займацца бруднай і няўдзячнай рамонтнай работай, умеючы тварыць вось такія дакументы.

Сардэчна падзякаваўшы, з моцна б'ючым ад радасці сэрцам, папёр я не да дому, а адразу ў пыласосную краму.

Зрабліо жонцы неспадзеўку — хітра рашыў я. Яна чакае пасведчання, а я ёй адразу новенькі пыласосік: маеш, бабо, і пыласос сабе на здароўе.

Хутка аказалася аднак, што радасць мая заўчасная. Прадаўшчыца, даведаўшыся чаго я ад яе хачу і прачытаўшы маё пасведчанне, не магла проста ўтрымацца ад іранічнага смеху:

— Пане, каб мы пачалі прадаваць на такія пасведчанні, то ўжо даўно б не мелі ў краме ніякіх лепшых тавараў, — вельмі лагічна зазначыла.

— То што ж мне цяпер рабіць? — запытаўся я.

— Напісаць прашэнне на імя начальніка горада, прылажыць да яго гэтае пасведчанне, прыклеіць марку, — цярпліва тлумачыла, — і занесці ў канцылярыю. А ўжо там будуць рашаць: прызначыць вам пыласос ці не...

На гэты раз я быў ужо асцярожнейшы. Хопіць быць расцяпай і публічна рабіць з сябе пасмешышча! Зайшоў у канцылярыю пана начальніка і спачатку асцярожненька пачаў даведвацца, як там маюцца пыласосныя справы, нібыта не пра мяне тут ходзіць:

— Проша пані, ці ёсць магчымасць атрымаць у вас дазвол на пакупку, напрыклад, новага пыласоса, калі маецца пасведчанне, што, напрыклад, мой пыласос сапсаваўся і не надаецца ўжо да рамонту?

— Так, ёсць такая магчымасць, — паінфармавала мяне вельмі мілая сакратарка, — але вы спазніліся. Мы ўжо раздзялілі ўсе пыласосы на гэты квартал. Прыйдзіце пасля Новага года, дзесьці каля 15 студзеня і тады мы прымем ваша прашэнне. Хаця яшчэ невядома ці будзем даваць такія дазволы ў новым годзе....

Культурненька і з глыбокім паклонам падзякаваў я за такую мілую і вычарпальную інфармацыю і задам выйшаў з канцылярыі, зноў радуючыся ў душы, што на гэты раз я ўжо напэўна зрабіў усё, што толькі было ў маіх сілах для развязкі гэтай праклятай пыласоснай праблемы. Цяпер то і жонка павінна быць з мяне задаволена.

І зноў памыліўся — жонку не расчуліла маё хадайніцтва па інстанцыях і абяцанкі. Ёй патрэбны быў пыласос!.. І яна зноў узялася за маё выхаванне:

— Чалавеку Божы, на якім ты свеце жывеш?! Яму сказалі, што няма ўжо да падзелу пыласосаў, ён і паверыў! Так заўсёды гавораць. Разумныя людзі так не паступаюць, як ты, і таму маюць па некалькі пыласосаў, а мы ніводнага... Пішы зараз „паданне”, толькі пастарайся добра, а я ўжо сама занясу і пагавару з імі як трэба.

***(заканчэнне будзе)***

**Васіль Сакоўскі**

# Так жылі і працавалі

**Некалькі дзесяцігоддзяў таму жыхары некаторых вёсак Падляшша апрача земляробства займаліся саломапляценнем для фірмы „Цэпэлія”. Напрыклад, у Рудутах за даход з продажу саламяных кашоў людзі будавалі сабе дамы. Таксама выраб саламяных мат даваў нядрэнны прыбытак. Пра сваю сям'ю і вёску Градалі расказвае Вера ЯКАНЮК — 85-гадовая пенсіянерка і народная мастачка.**



— Нарадзілася я на Вальні ў 1913 годзе. Мой бацька, Афанасій, працаваў на чыгунцы. Спачатку пракладаў ён шпалы, а калі атрымаў павышэнне па службе, пакінуў гаспадарку і з усёй сям'ёй у 1902 годзе выехаў з Градалёў. Жылі мы ў Ковелі, Луцку, Клевані, а перад выбухам вайны і падчас яе — на станцыі Абараў у чатырох кіламетрах ад Роўнага. Калі ўзнікла Польшча, пачаліся звальненні праваслаўных з дзяржаўнай работы. Адгэтуль восенню 1922 года вярнуліся мы на бацькаўшчыну.

Наша вёска была спалена казакамі. Жыць было вельмі цяжка, людзі жабравалі. На палях рос самасейны лес. Мы з сястрою збіралі ягады і прадавалі іх аж у Бельску, каб было за што купіць хлеба. Увесь міжваенны перыяд было цяжка. Стала лепш толькі пасля вайны.

У школу хадзіла я ў Рыгораўцы, а вучыла нас па-польску адна толькі настаўніца, Маркоўская. Пасля заканчэння чатырох класаў наймалася я на работу ў багатых сялян. Некаторыя мае аднагодкі ішлі на работу да арандатара ў Падбеллі, іншыя служылі ў яўрэяў. Памятаю, як трынаццацігадовай дзяўчынкай выкідала я гной з хлява. Плацілі за гэта залатоўку ўдзень (столькі тады каштаваў кілаграм цукру). Усе хадзілі басанож і нават не было моды хадзіць у ботах. Зімою жанчыны пралі, вязалі, ткалі... У нашай сям'і было пяць дзяўчат і толькі адна Соня закончыла гімназію і працавала медсястрой аж у Лодзі.

У 1934 годзе выйшла я замуж за хлопца з Андрыянкаў. Нарадзіліся нам тры дачкі. Цяпер адна жыве ў Беластоку, а дзве — у Бельску.

Пасля вайны многія сяляне вырошчалі лён і самі ткалі палатно на бялізну і вопратку. Пасля сталі ткаць маты з жытняй саломы. Некаторыя на гэтым занятку так разбагацелі, што нават пабудавалі сабе дамы. Я стала ткаць саламяныя маты ў 1962 годзе і займалася ткацтвам да пачатку дзевяностых гадоў. Была я перадавой ткалляй, а тавар купляла ў мяне „Цэпэлія”. За гэтую працу атрымала я пенсію. Шаснаццаць гадоў была я членам рады гэтага прадпрыемства. Прымала я ўдзел у многіх выстаўках народнага дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, арганізаваных „Цэпэліяй”, а мае вырабы не раз узнагароджваліся дыпломамі. Выязджала я таксама на экскурсіі ў Чэхаславакію, Венгрыю і Нямеччыну.

Цяпер саламяныя маты страцілі папулярнасць. У маім доме трымаю адну на памяць (на здымку: гераіня артыкула на фоне маты). Жыву ўжо самотна. Здароўе ў мяне яшчэ добрае. Трымаю курэй, сабаку, ката і дапамагаю дзецям абрабляць поле, якое мы ім перадалі. Дачка з Беластока адмовілася ад зямлі, а дзве дачкі з Бельска з зяцямі прыязджаюць у суботы і падчас водпускаў і працуюць, абсяваюць... Цяпер цяжка ў горадзе дастаць працу, то маладыя зямлі трымаюцца. Са сваёй пенсіі аплачваю сельскагаспадарчыя паслугі і так неяк гаспадарым...

**Запісаў Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Уваскрэсла

Ужо дзесяць гадоў мінула ад таямнічага знікнення Даркавай жонкі.

У гэтае лета Дарак рашыў выбрацца з Крысяй на мора, каб крыху развесяліць сваю пятнаццігадовую дачку. Вельмі дбаў пра яе, ды нават найлепшы бацька не заступіць матчыну ласку і апеку. Найгорш было ў святочныя дні. Дачка сумна казала тады: „Як шкада, што няма за сталом маёй мамы... Можа, памерла яна... Нават не магу пайсці на яе магілку...”

... Што здарылася, не ведаў ніхто. Жылі ж Дарак і Ева згодна, працавалі на адным прадпрыемстве бухгалтарамі. Аднойчы Ева пайшла ў краму і не вярнулася. Шукала яе паліцыя, былі здымкі ў газетах, аб’явы па тэлебачанні, ды нічога гэта не дало. Прапала жанчына, як у ваду канула... Дарак жыў з цесцямі, дапамагалі яму гадаваць дачку. Не думаў другі раз жаніцца, хоць сябры не раз намаўлялі...

На летні адпачынак падаліся ў Гданьскія Стэгны. На трэці дзень пасля прыезду Дарак рашыў паехаць з дачкой у Сопат, прайсціся па моле. Дзяўчыну нішто не цешыла, цягнулася за бацькам, быццам без душы.

Калі пайшлі вечарам на мол, Дарак глянуў на адну шпацыруючую пару і... енкнуў! Так, гэта была яна — ягоная прапаўшая жонка Ева! Не мог памыліцца: тая ж радзімка на левай шчацэ, белыя валасы сплеценыя ў гугель. Стрымліваючы ламатанне сэрца, падышоў да яе.

— Добры дзень, Ева, — азваўся не сваім голасам.

Жанчына пачырванела. Адказала:

— Добры вечар... Як ты мяне знайшоў?

— Зусім выпадкова. Пазнаў, бачыш. Ты ж зусім не змянілася.

— Гэта твой былы муж? — запытаўся мужчына, які трымаў Еву пад руку. Ён здаўся Дарку знаёмым.

— Я і цяпер яе муж, — сказаў Дарак. — Нам ніхто не даваў разводу.

— Я не хацела з табой разводзіцца. Не хацела, каб ты мяне маліў, каб прасіліся бацькі, каб перажывала Крыся. А так — прапала, і ўсё. Так было ж менш крыўдна...

— Мама, — заплакала Крыся, — як ты магла мяне пакінуць? Я ж думала, што ты памерла...

— Ты яшчэ не ведаеш, што такое сапраўднае каханне, — схацела абняць дачку Ева. — Калі пакахаеш, тады зразумееш мяне.

— Чаму ты мяне не забрала?..

— Эдэк жа не твой бацька, дарэчы, сказаў мне, што ты яму мяшала б. А так, без падзелу маёмасці, я пакінула ўсё, што нажыла, разам з табою. Даруй мне, але ў мяне не было выхаду.

— Значыць, і мяне ты не кахала... — паківаў галавой Дарак. — І нічога для цябе не значылі ні я, ні дом, ні дзіця...

— Дарак, ты мне падабаўся, як і ўсім сяброўкам. Найпрыгажэйшы хлопец у мястэчку, найразумнейшы... А Эдка я пазнала на камп’ютэрных курсах для бухгалтараў. Ну, вось і мы закахаліся...

— На тых курсах мы ж былі разам?.. І між намі тады было ўсё добра...

— Я ноччу да яго выходзіла. Даруй, Крыся, што ўсё гэта мусіш слухаць, але мушу ўсё сказаць!.. І я з’ехала да яго. Паперы ў мяне ўсе ў парадку, жыву легальна з ім. Не рабі клопатаў і мне, і сабе, Дарак.

— Праўда, не чапляйся да нас, — азваўся Эдэк. — Мы добра жывем, у нас блізняты... Не псуй таго, што мы збудавалі разам...

— А жывіце сабе, як хочаце, — махнуў рукою Дарак. — Не хачу больш нічога ведаць пра цябе. Адно крыўдна за Крысю.

— Не, не, не!.. — закрычала дачка, быццам адмахваючыся ад чагосьці надаедлівага і жахлівага і пабегла ў другі бок.

Над морам Дарак з дачкою былі ўсяго тыдзень. Вярнуўшыся, расказаў усё цесцям.

— Нам горка і страшна, — сказала Евіна маці. — Не думай пра яе, так як і мы не будзем. Няма чаго сумаваць. А ты, сын, маеш перад сабою жыццё, ажаніся... Ты такі добры чалавек і бацька...

— Не, жаніцца я не буду. Страшна неяк робіцца...

— Тата, я пайду працаваць у дзіцячы дом, як вывучуся, — рашуча сказала Крыся. — Многа ж дзяцей такіх, у якіх няма ні маці, ні тым больш таты.

**Аўрора**

# Конкурс „Нівы”

Рэдакцыя „Нівы” аб’яўляе конкурс ведаў пра Беларусь. У дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка будзем змяшчаць пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач будзем друкаваць тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб’ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэція — па 100 зл., дзве падпіскі „Нівы” на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве” ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Нівы”*.

Ніжэй змяшчаем першае пытанне.

ТАЛОН № 1

**Конкурс тыднёвіка Ніва**

Над ракой Нёман знаходзіцца горад

❑ Слуцк ❑ Орша ❑ Гродна

# Аўрора

Наша каханая Аўрора — яна, як човен на моры: плыве спакойна, на хвалях калыхаецца і да мэты прыбліжаецца. Шукае нешта новае і праўдзівае, часта неверагоднае і дзіўнае. У прыгожых расказах і вершах яе думкі і ў яснай, роднай яе мове — нашы паратункі. Яна — *рымская багіня світання* — дае чытачам „Нівы” радасць і пазнанне. Піша плённа і рамантычна, з любоўю і пашанай да людзей — лірычна. Не адарвацца ад яе слоў, якія чытаем, і ад сэрца Аўрору паважаем. А хто яна ў сапраўднасці, якая прыносіць нам столькі радасці? Прыгожая, стройная маладзіца, яна ў снах і на яве душою можа адкрыцца. Яна таямнічая і закрытая, яна ўсім яўная, чароўная і адкрытая, — яна можа быць гераіняй цудоўнага рамана! Зрываецца на ногі на золаку, рана; яна добрая гаспадыня, маці і жонка і вартая пашаны і залатой каронкі. Калі ў „Ніве” яе брак — я часта сам „небарак”. Не магу дачакацца, калі яна зноў паявіцца і сваім лёгкім пяром праславіцца. Шчаслівы яе муж Росцік, што яго жонка прыкладае ў „Ніве” свой *мосцік*: каб чытачы па ім лёгка ішлі ды радасць і шчасце знайшлі. Наша каханая і пачэсная Аўрора! Яе вочы блакітныя, як хвалі на моры. Яе допісы чакаюць на кніжнае выданне — першым яго куплю, і Ірэне Лукшы — Аўроры найлепшыя прывітанні ад сэрца шлю.

**Мікалай Панфілюк**

# Кепскі жарт

У панядзелак 11 мая г.г. прыйшлося мне вяртацца дамоў апошнім цягніком, які з Беластока ў Чахомху ад’язджае ў $20^{43}$.

На станцыю я прыйшоў намнога раней, і каля восьмай вечара апынуўся на чацвёртым пероне. Прысеў на лаўцы і, абапёршыся рукамі на яе, пачаў раздумваць.

Незадоўга пасля гэтага да мяне падышоў знаёмы машыніст Мірэк Л. Калі я падаў руку на прывітанне дык убачыў, што яна ў мяне да паловы зялёная ад фарбы. Значыцца, лаўка была свежа памаляванай. Аднак аб гэтым чыгуначнікі забыліся паведаміць картачкай „Świeżo malowane”. Такім чынам я прыліп да гэтай жа лаўкі. Запэцкаў не толькі рукі, але і нагавіцы. Калі я сказаў пра гэта дзяжурнай адпраўляючай цягнік, тая з усмешкай заявіла: „Трэба хадзіць у зялёных споднях” (лаўка памалявана была зялёным). І што я меў адказаць? Мо нешта і сказаў бы нецэнзурнага, але цягнік крануўся з месца і мая прыгажуня ў чырвонай шапцы засталася на пероне і па-ранейшаму ўсміхалася.

— Кепскі гэта жарт, — уголас вылаяўся я, закрываючы дзверы вагона.

**(ус)**

# Гарэлка даводзіць

Гарэлка даводзіць да бяды і трагедыі і часта да „спектакля-камедыі”. П’яны — вялікі „герой” і ідзе смела, а ў галаве яму круціцца недаспелай, дома з жонкай пачынае сварыцца, скача з кулакамі каб біцца, часта наб’е сінякоў ёй на твары; лепш, каб іншы яму прылажыў па *хары*. Калі муж п’яніца-алкаголік, ён свайго роду параноік, яму ў вачах чарцяняты скачуць і нікчэмнае рабіць кажуць. Можа нават і чалавека забіць, пакалечыць, а пасля не можа даць грошай каб лечыць. Бо п’яніца бедны, як касцельная мыш, ад яго дастанеш толькі шыш. П’яніца часта агрэсіўны, ніколі разумны ці прагрэсіўны. Патрапіць зрабіць самагубства і каму на злосць найгоршае глупства. Калі п’яны сядае за руль самахода — гэта злачынства вялікага роду, бо сам можа скора стаць трупам, або кагосьці забіць, нават цэлую групу. Слаба такіх у нас караюць, бо ў вярхах не ладзяцца і самі сябе лаюць. У нас распіліся як на *пагібель* — гэта бяда, драма і не „фігель”. П’юць ад малога да старога, нават тыя, што здароўя слабога. Рускія таварышы нам у гэтым дапамагаюць, бо атрутнага „раялю” шмат маюць. За бясцэнак пад дом п’яніцы падвязуць, маюць прыбытак і паклон яшчэ шлюць. П’яніцы ў Хрыста не вераць і да Бога не ідуць, а свае душы на звалку гісторыі і д’яблу прадаюць.

**Мікалай Панфілюк**

# Давайце абменьвацца кнігамі

Нядаўна напісаў нам чытач з Мінска, які цікавіцца жыццём беларусаў Беласточчыны. Піша ён, што з „Нівай” пазнаёміўся ў 1989 г., але паколькі зараз у Беларусі няма магчымасці на яе падпісацца, таму наш штотыднёвік даводзіцца яму чытаць час ад часу. З мінскага штотыднёвіка „Літаратура і мастацтва” што і раз ён даведваецца пра новыя выданні на беларускай мове, якія выходзяць у Польшчы. Яму вельмі хочацца мець іх у сваёй бібліятэцы і таму прапануе абмен нашых кніжак на вартасныя выданні Рэспублікі Беларусь (напрыклад, „Геральдыка беларускіх местаў” А. Цітова). Можа нехта з нашых чытачоў дапаможа сябру з Беларусі? Вось яго адрас: **Зміцер Цехановіч, Мінск, вул. Арлоўская, д. 31, кор. 2, кв. 34 , 220068 Беларусь**.

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

***Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.***

E-MAIL: niwa@kurier-poranny.com

INTERNET: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Мірановіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1998 r. upływa 5 czerwca 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

# Ніўка

## Калістрат

Вы думаеце, людзі падобныя адно да аднаго? Ні ў якім разе. Гэта толькі здаецца, што ўсе яны сумныя і нецікавыя божыя стварэнні, дакладней, чалавечыя.

Да ліку тых, хто мае свае таямніцы, належыць і мой сябар Калістрат. У вольную часіну ён любіць чытаць навуковую літаратуру і артыкулы пра харчаванне.

Аднойчы, пасля чарговага артыкула, яму нешта здурыла — і ён пачаў есці толькі раслінную ежу. Было гэта ўзімку, калі зеляніны мала, таму Калістрат сілкаваўся выключна бульбай і буракамі.

— Чаму, — пытаю, — сырое ясі? Зварыў бы...

— Пакуль зварыцца, — адказвае, — дык усе вітаміны згінуць. Нявыгадна... Адзін прафесар — я ў часопісе чытаў — харчуецца сырым: яму семдзесят, а бегае, як усё роўна семнаццацігадовы. Во!

Спрачацца я не стаў, бо Калістрат быў такі ж упарты, як, мусіць, і той невядомы прафесар... Я тады з'ехаў у камандзіроўку. Вярнуўшыся, убачыў: ляжыць мой сябар на ложку — бледны, шчокі ўваліліся, вочы глыбока запалі...

— Калістратка, ты што?

— Дык во — ляжу... — азваўся ён.

— Сонца свеціць, надвор'е такое... а ты!.. — накінуўся я, але неўзабаве асекся — выгляд у Калістрата быў нейкі ненатуральны: валасы на галаве пазелянелі, вусы — таксама, вушы зрабіліся чырвоныя, як буракі.

— Што гэта з табой?

— Га? — не дачуў ён.

— Ты паглядзі на сябе!..

Той падняўся, зірнуў у люстэрка і як высунуў язык, так і застаўся.

— Ці не трава гэта ў мяне на галаве расце... — схапіўся за валасы і вырваў цэлы жмут.

— Паедзеш у вёску да маці, з чуба травы нарвеш і дасі кабану, — пажартаваў я.

— Штo-o р-рабіць? — перапалохана ўсклікнуў Калістрат і похапкам пачаў мацаць сваё пазелянелае цела. І чым больш ён сябе аглядаў, тым мацнейшы страх з'яўляўся ў яго вачах. — Што рабіць?!

— Як што? Трэба...

— Трэба ў бальніцу, — дагаварыў ён за мяне і, хуценька апрануўшыся, пабег у паліклініку.

Праз месяц Калістрат вярнуўся. Трава на галаве ўжо не расла, і ўвогуле я пазнаў у ім свайго ранейшага нармальнага сябра. Пасля гэтага Калістрат нейкі час устрымліваўся ад розных парад прафесараў наконт харчавання.

Але аднойчы я заўважыў, што ён зноў чытае навуковы артыкул пра харчаванне. Я толькі што вярнуўся з крамы, прынёс дзве бутэлькі малака і паклікаў Калістрата падсілкавацца.

— Я не хачу... Я не ўжываю малако, — ён адвёў пагляд убок.

— Учора ўжываў, а сёння...

— Так... З сённяшняга дня не ўжываю.

— Чаму?

— Малако ад каровы павінны піць толькі цяляткі, — не сказаў — адрэзаў Калістрат. — Для чалавека яно шкоднае...

Я не стаў з ім спрачацца. А назаўтра — зноў паехаў у камандзіроўку.

**Уладзімір Цішуроў**

## А я іду...

Ніўская супрацоўніца, вечна запрацаваная і забеганая, з поўнымі торбамі пасля працы вырвалася са спажывецкай крамы „Дэлікатэсы" (што па вул. Суражскай) і папёрла на аўтобусны прыпынак, — спяшалася да свайго мужа, унукаў і Муркі, якія, з разяўленымі ратамі, чакалі ў хаце вяртання яе з „палявання". Бегла без аглядкі, не ўзіраючыся на плынь машын і людзей: абы хутчэй дадому, накарміць галодную грамаду!

— А куды ж шаноўная грамадзянка так бяжыць, нягледзячы на знакі і забароны? — злавіў яе за рукаў спадар у паліцыйнай форме.

— Ой, даруйце, я не заўважыла вас! — ускпікнула наша сяброўка, і пабегла далей сваёю дарогай. **(лук)**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. перыядычная падзея ў дэмакратычным грамадстве, 3. порт на захадзе Кюсю, 5. вялікая маса снегу, якая падае з гор, 7. абаянне, 9. над зямлёю, 10. прывілеяваны феадальны клас, 11. механізм для перамяшчэння грузаў, 12. шуба з футравым мехам і падкладкай, 14. туга, 16. сталіца Цюрынгіі, 17. накладная планка вакол аконнага праёма.

**Вертыкальна:** 1. экстрадыцыя, 2. горны масіў у Балгарыі, 3. сталіца Йемена, 4. племя ў Заіры, 6. паміж скрыпкай і кантрабасам, 8. вялікая дарожная карэта даўней, 9. штат з Лас-Вегасам, 11. адтуліна ў вулкане, 13. па ёй пазнаюць пана, 14. кароткі вясёлы сюжэт, 15. інданезійская выспа. **(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 17 нумара**

**Гарызантальна:** кондар, жырафа, Абуджа, Раба, гала, Грыгаровіч, Крым, капа, венеды, Чыкага, балван.

**Вертыкальна:** коўдра, араб, жыжа, фабула, удачарэнне, Багрым, гаічка, краўчы, падман, Вега, дыба.

Фрашкі пра нашых

## Рымснуўся

Часам паэзія і мяне
 звальвае з ног,
Калі я чытаю
адзінаццатую старонку.
Ад творчай *удрэнкі* —
хай бы Бог
 яго ўсцярог!
Ды хоць Чытача
 хай
 не зрыфмуе ён
 з бонкам!

## No pasaran!

Усе ўваходы
 на ўсе фестывалі
Пільнаваць
 цяпер будуць
 цэрберы з хораў.
Мо Крук праляціць.
 Ні кроку
 каб далей
Гандзя не ступіць!!!
 Тут жондзіць
 Camorra!

## З мінскіх замалёвак

Часам і д'яблу трэ свечку паставіць,
Каб грошык ад гандлю упаў у кішэню.
Ды хто той нячысты? А хто можа збавіць?
Слова хто дасць, а хто срэбнікаў жменю?

На ўсякі выпадак разлічваць нам трэба,
Што, перш за ўсё, народ есці мусіць.
Табліцу паставім над будкай пад небам:
"Hot Dog. Пицца. Хутка і смачна". І досыць.

Ці смачна народу? На хаду ўсё каўтае,
І слёзы, і цеста, і матам пасоліць.
У тую „Еўропу" дарога такая,
А той, што гандлюе, бярэ сваю долю.

**Вандал Арлянскі**

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Лідка, ты прыгожая, чароўная, інтэлігентная...

— Шкада, што не магу такога ж сказаць пра цябе.

— Дык рабі тое, што я.

— Якім чынам?

— Ілгучы.

* * *

— Ці ты так у сапраўднасці кахаеш сваю Марусю?

— Так, і буду яе кахаць да апошніх дзён свайго жыцця.

— А я думаў, што ты хочаш з ёю ажаніцца.

* * *

Мікола штодзень заходзіў у бар выпіць чарку. Аднойчы заказаў дзве.

— Адкуль такая змена? — пацікавіўся буфетчык.

— Мой сябра выехаў у Амерыку, а паколькі там дарагая гарэлка, прасіў мяне, каб я кожны дзень кульнуў чарку за яго.

Мінула некалькі дзён і Мікола зноў заказаў толькі адну чарку.

— Што новага здарылася: мо сябра захварэў? — пытае зноў буфетчык.

— Сябра адчувае сябе выдатна і я за яго далей выпіваю, толькі мне нешта нездаровіцца і мушу адмовіцца ад сваёй чаркі.

* * *

Альштынская паліцыя забараніла ўласніку начнога клуба расхвальваць яго дзейнасць карыстаючыся словам „голыя". Тады прадпрымальнік стаў заахвочваць наведвальнікаў лозунгам: „Дванаццаць экзатычных прыгажунь! Адзінаццаць цудоўных касцюмаў!"

* * *

Наведвальнік рэстарана кліча афіцыянта:

— Пагля дзіце! У маёй талерцы плавае муха ў супе...

— Ой, выбачайце! Гэта кухар налівае столькі супу, што не пакідае мухам нат лапіны сухога месца.

* * *

Малады чалавек прыбывае з візітам к мільянеру:

— Хачу ажаніцца з вашай дачкою.

— А які ў вас маёнтак?

— Дзве тысячы долараў.

— Замала!

Пасля года спатыкаюцца яны на банкеце.

— Чуў я, малады чалавеча, — адзываецца багацей, — што вы атрымалі спадчыну...

— Гэта праўда; пяць мільёнаў долараў.

— Можаце жаніцца з маёй дачкою.

— Забрыдкая.

* * *

У кавярні яна сядзіць пры адным століку, ён пры другім і праз пасрэдніцтва афіцыянта вядуць перапіску.

Ён: Кахаю, прагну...
Яна: Кахаю, жадаю 500.
Ён: Кахаю, дам 50.
Яна: Хам!

## Шахцёр і чыстае паветра

Па Белавежы кружыць зараз анекдот, як гэта прыехаў сюды на адпачынак адзін шахцёр з Сілезіі. Прыехаў, глытнуў свежага паветра і... абамлеў! Кінуліся белавежцы ратаваць госця, але ніякім вядомым спосабам не мог вярнуць чалавека ў прытомнасць. А і лекара на месцы нямаш! Але якраз праязджаў на матавеласіпедзе лясны рабочы. Затрымаўся! Даведаўшыся ў чым справа, накіраваў выхлапную трубу пад нос лежачага і „пагазаваў". Шахцёр маментальна адкрыў вочы і праз хвіліну дайшоў да прытомнасці.

Вывад — не ўсім чыстае паветра карыснае!

**Пётр Байко**